◂ № 35 (356) ◂ 20 верасня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ГЕЛЬМУТ ШМІТ

Стар. 6

## ЭСТОНІЯ: РУСКІЯ — ЯНЫ ТАКІЯ

Мусоліць тэму «праблемы рускіх» — гэта альбо сыход ад чагосьці, альбо проста гуляем так

Стар. 4–5

## СТРАСЦІ ПА КАРАЛЮ

Ажыятаж вакол нараджэння нашчадка брытанскага трону ажывіў манархісцкі рух у Польшчы

Стар. 11

## СЛАВУТЫ МАЭСТРА ПУЗЫНЯ

Стар. 14

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

## ВАЛАДАРСТВА КНЯЗЁЎ КОРСАКАЎ

Нарыс Віталя Сямашкі

З НАГОДЫ




# БЕЛАРУСЬ ПРАЙГРАЛА «КАЛІЙНУЮ ВАЙНУ»

Сяргей ПУЛЬША

**«Справа Баўмгертнера», расійскага топ-менеджара «Уралкалію», падыходзіць да завяршэння. І, здаецца, Беларусь падставілі больш, чым яна тое зразумела. Прынамсі, у выніку гэтага канфлікту мы атрымалі больш стратаў, чым выгадаў.**

У панядзелак, 16 верасня, намеснік генпракурора Расіі Аляксандр Звягінцаў паведаміў, што беларуская пракуратура выдзеліць у асобную вытворчасць матэрыялы па справе «Уралкалію» супраць расійскіх грамадзян і падрыхтуе іх для перадачы ў расійскае нагляднае ведамства. Пра гэта вялася размова паміж Звягінцавым і беларускім генпракурорам Аляксандрам Канюком.

«Падчас размовы Аляксандр Канюк паведаміў, што ім па крымінальнай справе ў дачыненні да ААТ «Уралкалій», якую цяпер расследуюць следчыя органы Беларусі, прынята рашэнне аб выдзяленні матэрыялаў у дачыненні да расійскіх грамадзян у асобную вытворчасць і перадачы гэтых матэрыялаў у генеральную пракуратуру Расійскай Федэрацыі для арганізацыі далейшага расследавання кампетэнтнымі органамі Расійскай Федэрацыі. І такія ўказанні <...> генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь ужо даў следчым органам рэспублікі», — сказаў Звягінцаў.

Па меркаванні беларускага адваката Баўмгертнера Дзмітрыя Гарачкі, гэта азначае тое, што справа будзе поўнасцю перададзеная Расіі, як і сам Баўмгертнер. Кваліфікацыю ягонаму злачынству, калі такое мела месца, таксама дадуць расійскія следчыя органы. Але расійскія «следакі» могуць вырашыць, што ў ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» Баўмгертнер быў старшынёй назіральнага савета, і менавіта назіраннем ягоныя паўнамоцтвы абмяжоўваліся (пра што неаднаразова казаў старшыня савету дырэктараў «Уралкалію» Аляксандр Валошын). А паколькі ён не меў паўнамоцтваў, якімі мог бы злоўжываць, справу супраць яго спыняць, і Баўмгертнер апынецца на волі.

Таксама паведамляецца, што долю аб'яўленага ў вышук Інтэрполу Сулеймана Керымава ва «Уралкаліі» набыў расійскі банкір Уладзімір Коган. У адрозненне ад Керымава, Коган — чалавек з «каманды Пуціна». Нібыта, за 21,75% акцый «Уралкалію» Коган заплаціў 3,7 мільярда долараў. Варта адзначыць, што Керымаў першапачаткова прасіў за сваю частку 4,5 мільярда долараў, а рынкавая вартасць гэтага пакета — 3,4 мільярда «амерыканскіх».

Раней Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што ўлады Расіі дапамогуць яму ўзнавіць партнёрства паміж «Уралкаліем» і «Беларуськаліем» і адрадзіць картэль на сусветным рынку калію. «Я чамусьці перакананы, што і расіяне прымуць адпаведнае рашэнне, і кіраўніцтва Расіі такую магутную расійскую кампанію без увагі не кіне. Рана ці позна, для таго, каб аднавіць статус-кво і тое, што было раней, расіяне прыйдуць да нас. З меншага, мы не супраць працаваць так, каб былі вялікія даходы. Што для гэтага трэба зрабіць, цалкам зразумела», — казаў Лукашэнка.

Пакуль што пра адраджэнне партнёрства размовы не ідзе, але… Пра гэта Лукашэнка і Пуцін могуць паразмаўляць, калі сустрэнуцца ў часе сумесных вайсковых вучэнняў «Захад–2013».

Але давайце падлічым, хто апынуўся «ў плюсе», а хто «ў мінусе» ў гэтай вайне?

Найперш, у плюсе апынуўся так званы «клан Пуціна», набыўшы кантроль над адным са стратэгічных актываў Расіі. Улічваючы, што ў межах БКК «Уралкалій» і «Беларуськалій» кантралявалі каля 40% рынку калійных угнаенняў, актыў неблагі.

У плюсе, як ні дзіўна, застаўся і былы ўладальнік долі «Уралкалію», былы закадычны сябра Аляксандра Лукашэнкі Сулейман Керымаў. Спачатку, падчас «разводу» «Уралкалію» з БКК, ён нарасціў сваю долю ва «Уралкаліі» з 17,2% да 21,75% на фоне абвалу акцый расійскага прадпрыемства, на чым зэканоміў прыблізна 130 мільёнаў долараў. А потым прадаў пакет, і нават з выгадай: на 300 мільёнаў долараў больш за рынкавую вартасць.

Баўмгертнер, калі выйдзе на волю, застанецца калі не ў плюсе, то пры сваіх. Канешне, «адсідка» не завецца плюсам, але, па інфармацыі з дасведчаных крыніц, напрыклад, па звестках вядомага расійскага адваката Аляксандра Дабравінскага (менавіта ён першы паведаміў пра пакупку Коганам «Уралкалію» — за тыдзень да таго, як гэта знайшло пацверджанне) расійскі топ-менеджар пасля вызвалення захавае ўсе свае пасады.

А вось што са скандалу атрымала Беларусь? Бадай што анічога, альбо суцэльныя непрыемнасці.

Найперш, «Беларуськалій» часткова пазбавіўся сеткі распаўсюджвання і вымушаны быў закрыць на «планавы рамонт» два руднікі з чатырох. Расія ў адказ на «несяброўскія паводзіны» часткова задзейнічала сваю галоўную зброю: галоўнага санітарнага ўрача Генадзя Анішчанку, у выніку чаго часткова быў перакрыты доступ да расійскага рынку некаторым беларускім малочным і мясным прадуктам.

Беларускае следства налічыла, што Баўмгертнер і ягоныя сябры нанеслі стратаў краіне на сотню мільёнаў долараў. Але, са зменай уласніка «Уралкалію», гэтыя страты кампенсаваць ніхто не збіраецца.

І, як заўсёды, Расія націснула на нафту — не дарма яна не задавальняе беларускія прапановы падпісваць баланс па пастаўках нафты на год, а карэктуе іх толькі на кварталы. Як стала вядома, у планах старэйшага брата — скарачэнне паставак нафты трубаправодным транспартам у IV квартале 2013 года да 3,1 мільёна тон, альбо на 41,5%.

Калі раней Расія пастаўляла нафту з «беларускай разлікаў» у 21,5 мільёна тон на год, то зараз перайшла на «расійскія» 18,5 мільёна тон. Менавіта пра гэта папярэджваў расійскі віцэ-прэм'ер Аркадзь Дварковіч пасля арышту Баўмгертнера.

Адначасова «Транснафта» паведаміла, што з-за рамонту на нафтаправодзе «Дружба» будуць скарочаны пастаўкі нафты ў Беларусь у верасні з 1,6 мільёна тон да 1,37 мільёна.

Нафтапрадукты і калій — асноўныя крыніцы валюты для Беларусі. Пры такіх падыходах валютнага крызісу сапраўды трэба чакаць напрыканцы года гэтага — напачатку будучага. Тым больш, што нам яшчэ па крэдытах расплачвацца.

ЦІСК

# АДМОВІЦЦА АД РОДНАЙ МОВЫ

**Новы дэкан факультэта гісторыі, камунікацыі і турызму Аляксандр Нечухрын выступіў з прапановай перайсці сваім выкладчыкам, якія заўсёды вялі навучанне па-беларуску, на рускую мову.**

Прафесар Алесь Краўцэвіч, які працаваў калісьці ва ўніверсітэце на пасадзе прарэктара, здзіўлены такой пазіцыяй новага дэкана. «Трывожныя весткі пра русіфікацыю гістарычнага факультэта Гродзенскага ўніверсітэта. Русіфікацыя звязаная з новым дэканам Аляксандрам Нечухрыным. У прыватнасці, ён настойвае на пераводзе курсаў, якія чытаюць на беларускай мове, на рускую. З тлумачэннем, што, маўляў, туркмены нас не разумеюць. Туркменам трэба дагаджаць, а беларусам — не! Я маю інфармацыю, што замовіў новы дэкан змяніць усе шыльдачкі: назвы кафедраў, дэканату, якія пакуль на беларускай мове, на рускамоўныя».

Такая пазіцыя Аляксандра Нечухрына, на думку навукоўца, якія працуюць і не працуюць ва ўніверсітэце, магчыма, звязаная з агульнай палітыкай кіраўніцтва ўніверсітэта. Такія дзеянні яны параўноўваюць з працай у Беларусі сумнавядомых Мураўёва-Вешальніка ці Сталыпіна па русіфікацыі краю. Апрача таго, такія дзеянні парушаюць асноўны закон краіны.

**Радыё «Рацыя»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АЎТУХОВІЧ УСКРЫЎ САБЕ ЖЫВОТ

**Прадпрымальнік з Ваўкавыска, які адбывае прысуд у гродзенскай турме №1, нанёс сабе цяжкія цялесныя пашкоджанні — ускрыў сабе лязом жывот. Пра гэта стала вядома з канфідэнцыйнай крыніцы.**

Мікалай Аўтуховіч пайшоў на крайнія меры, пратэстуючы супраць незаконных спагнанняў.

Два гады запар Мікалаю Аўтуховічу выносяць незаконныя спагнанні менавіта ў той момант, калі ў яго павінны пагасіцца ўсе раней накладзеныя на яго пакаранні. 4 верасня 2013 года, калі ў палітвязня заставалася каля месяца да пагашэння ўсіх парушэнняў, на яго зноў было накладзенае новае спагнанне, што фактычна пазбавіла яго магчымасці атрымання пасылкі і перадачы, сустрэчы з роднымі ў аб'ёмах, якія прадстаўляюцца астатнім зняволеным.

Па версіі той жа крыніцы, рашэнне, прынятае палітвязнем пасля накладання спагнання, тлумачыцца тым, што ён старанна сыходзіць ад любых парушэнняў, не даючы для іх ніякай падставы адміністрацыі.

Такім чынам, адміністрацыя турмы імкнецца трымаць Мікалая Аўтуховіча ў статусе «злоснага парушальніка рэжыму ўтрымання». Менавіта ў дадзеным статусе яго лёгка асудзіць па арт. 411 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі) і дадаць дадатковы тэрмін, альбо прызначыць прэвентыўны нагляд пасля вызвалення.

Па факце інцыдэнту праваабаронцы накіравалі запыты ў гродзенскую турму №1 і Дэпартамент выканання пакаранняў МУС.

**platformarb.com**

ПРАЕКТ

# ТЭНІС ДЛЯ СІРОТ

Улад БУКІН

**Валанцёрская група «Аб'яднанне беларускіх актывістаў», якая займаецца падарожжамі ў дзіцячыя дамы і прытулкі Мінска, з кастрычніка плануе рэалізацыю сацыяльнага праекта па спартовай тэматыцы.**

Сутнасць праекта — навучанне ўсіх жадаючых у дзіцячых дамах і прытулках настольнаму тэнісу. А таксама арганізацыя спаборніцтваў па тэнісу сярод дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. У Беларусі падобных акцый яшчэ не праводзілася.

На працягу чатырох месяцаў валанцёры «Аб'яднання беларускіх актывістаў» збіраюцца праводзіць навучанне. Пасля чаго адбудзецца адбор на турнір. Прызёры і ўдзельнікі турніру будуць узнагароджаныя.

Для паспяховай рэалізацыі праекту валанцёрскай групе «Аб'яднанне беларускіх актывістаў» патрэбна дапамога ў набыцці сталоў для тэнісу, ракетак, сетак і шарыкаў.

Даведкі і прапановы супрацоўніцтва па тэлефонах: +375256814394 (Life), +375444874046 (Velcom). А таксама на сайце праекта: http://oba.by/ і ў групе ВКонтакте: http://vk.com/oba_by

ПАРТЫІ

# БХД НЕ ГУЛЯЕ НІ ПА ЧЫІХ ПРАВІЛАХ

Сяргей ПУЛЬША

**У той час, калі іх калегі ўжо разбегліся па кааліцыях, БХД не далучыўся ні да каго. Сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі патлумачыў — для таго, каб захаваць свабоду дзеянняў.**

Віталь Рымашэўскі і адказны сакратар арганізацыі Дзяніс Садоўскі сустрэліся з журналістамі і распавялі ім, чым аргкамітэт будзе займацца цягам наступных палітычных кампаній.

«Мы канстатуем, што беларускай уладай не было выканана ні адно патрабаванне беларускага дэмакратычнага грамадства і міжнароднай супольнасці аб правядзенні свабодных і справядлівых выбараў. Не выкананы і патрабаванні аб стварэнні ўмоў для правядзення такіх выбараў. Няма свабоды сходаў, вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў, якія б змаглі прыняць удзел у выбарах, няма свабоды СМІ, свабоднай рэгістрацыі партый і грамадскіх аб'яднанняў. Больш за тое, улада ўзмацніла рэпрэсіі, што мы бачым на прыкладзе ксяндза Лазара, Андрэя Гайдукова і гэтак далей. Выбары ў Беларусі не могуць лічыцца законнымі, калі іх вынікі атрыманыя ва ўмовах фактычнай няроўнасці палітычных сіл пры фарміраванні выбарчых камісій, абмежаваныя магчымасці рэальнага кантролю і назірання за ходам галасавання і падлікам галасоў», — канстатаваў Рымашэўскі.

Улічваючы ўсё гэта і шэраг іншых фактараў, Рымашэўскі заявіў: БХД ужо зараз не прызнае мясцовыя выбары, якія павінны прайсці ў 2014 годзе, свабоднымі і справядлівымі, а таксама загадзя заяўляе, што не прызнае і любыя вынікі гэтых выбараў легітымнымі. І заклікае ўжо зараз далучыцца да гэтай ацэнкі ўсю дэмакратычную супольнасць.

Па новых правілах, на выбарах у мясцовыя саветы няма ніжняй планкі яўкі выбаршчыкаў, таму байкот чыста фізічна немагчымы. Нават калі на выбарчы ўчастак з'явяцца тры чалавекі, мусяць прызнаць, што выбары адбыліся. Так што замест байкоту БХД прапануе «правядзенне інфармацыйнай кампаніі шляхам вылучэння кандыдатаў». Такіх кандыдатаў у БХД ужо 230 чалавек.

БХД плануе стварыць «альтэрнатыўныя мясцовыя саветы» насуперак, як казаў Садоўскі, «карумпаваным мясцовым чыноўнікам і прызначаным «дэпутатам» мясцовых саветаў, якія нічога не вырашаюць». У БХД ужо дзейнічае «Рада народных дэпутатаў»: тыя людзі, якія вылучаліся кандыдатамі ў дэпутаты на выбары розных узроўняў, і пасля выбараў дапамагаюць грамадзянам вырашыць іх мясцовыя праблемы шляхам напісання петыцый і заяваў. Гэта і ёсць «альтэрнатыўныя» дэпутаты — праўда, без усялякіх паўнамоцтваў. Але і ў сённяшніх дэпутатаў мясцовых саветаў паўнамоцтваў — каціныя слёзы.

Што тычыцца будучых прэзідэнцкіх выбараў, то БХД «двюма рукамі за» адзінага прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта ад дэмакратаў. Але прапануе свой падыход, які, на іх думку, павінен прымірыць два супрацьлеглыя бакі апазіцыі: тых, хто за шырокі «праймерыз», і тых, хто плануе абраць адзінага кандыдата на чарговым Кангрэсе дэмакратычных сілаў.

БХД прапануе вылучацца ў прэзідэнты ад дэмсілаў усім: тым, хто маюць судзімасці, хто яшчэ сядзіць, хто ўжо адседзеў, хто ў эміграцыі і хто ў краіне — не зважаючы на тое, што думаюць на гэты конт у Цэнтрвыбаркаме і ў Адміністрацыі прэзідэнта. Сярод такіх «вылучэнцаў» праводзіцца праймерыз. Гэта дазваляе, папершае, прыцягнуць да абмеркавання кандыдатур максімальную колькасць народа (што можна зрабіць і на мясцовых выбарах), а па-другое — вызначае «пяцёрку мацнейшых». З гэтых «пяці мацнейшых» КДС ці Народны сход, як каму падабаецца, выбіраюць адзінага.

Слабое месца ініцыятывы заключаецца менавіта ў тым, што ўсе больш-менш вядомыя дэмакратычныя лідары маюць судзімасці, і Цэнтрвыбаркам іх цалкам можа «забракаваць».

Забракуе? Не бяда, лічыць Рымашэўскі. Выбараў усё роўна няма. І калі ўлады не адумаюцца пасля выбараў у мясцовыя саветы, трэба праводзіць «альтэрнатыўныя» прэзідэнцкія выбары.

ВЫБАРЫ

# ВЫБАР УСЁ Ж БУДЗЕ

Сяргей ПУЛЬША

**У кааліцыі «Народны рэферэндум» узнікала ідэя, як надаць новы імпульс кампаніі назірання за выбарамі, якая раней мела назву «За справядлівыя выбары». Гэты брэнд яны ператварылі ў кампанію пад назвай «Права выбару».**

У кампанію ўваходзяць «Народны рэферэндум» — то бок, Рух «За свабоду», кампанія «Гавары праўду!» і Партыя БНФ, далучылася да ініцыятывы БСДП (Грамада). Яны аб'ядналіся яшчэ з трыма структурамі: аргкамітэтам па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу, Беларускай партыяй «Зялёныя» і БХД.

Сістэма апазіцыйнага партыйнага назірання зменіць свой фармат. Назіральнікі «Права выбару» не будуць раскідвацца, спрабуючы закрыць сабой як мага больш выбарчых участкаў. Яны сканцэнтруюцца толькі на тых акругах, дзе будуць ісці апазіцыйныя кандыдаты ў дэпутаты. Гэтая канцэнтрацыя палягае таксама і ў шчыльнай супрацы з самімі кандыдатамі і з іх штабамі. Бо менавіта кандыдаты і іх штабы павінны мець зацікаўленасць у назіранні і ў альтэрнатыўным падліку калі не галасоў, то хаця б прыйшоўшых на галасаванне. Гэта дазволіць узмацніць як назіранне кандыдатаў — актывістамі «Права выбару», так і «Права выбару» — прыхільнікамі кандыдатаў.

З кастрычніка пачынаецца першы этап кампаніі «Права выбару» — навучанне назіральнікаў, стварэнне метадычных матэрыялаў і запуск сайту назіральнай кампаніі.

Як адзначыў прадстаўнік сакратарыяту «Права выбару», намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, права выбару — гэта не толькі права прыйсці на ўчастак, запоўніць бюлетэнь і ўкінуць яго ў скрыню. Гэта права і на справядлівы падлік галасоў, чаго ў Беларусі даўно няма, і права на выбары без парушэнняў, і права на веданне сапраўдных вынікаў галасавання. Праца новага назірання будзе збудавана па крыху іншай схеме і прадугледжвае дзеянні пасля выбараў. Прынамсі, па выніках выбараў плануецца арганізаваць інфармацыйную кампанію аб фальсіфікацыях (пра тое, што яны будуць, Садоўскі і Лялькоў разважалі, як пра факт, які ўжо адбыўся) на агульнабеларускім і міжнародных узроўнях. Таксама сябры кампаніі дапамогуць кандыдатам пісаць скаргі на вынікі выбараў.

Некаторыя палітолагі выказвалі сумнеў наконт новай ініцыятывы. Маўляў, з «перафарматам» могуць не пагадзіцца старыя ўдзельнікі кампаніі «За справядлівыя выбары». Атрымаецца дзве апазіцыйныя кампаніі назірання, і іх вынікі будуць канфліктаваць паміж сабой, а не з дадзенымі Цэнтрвыбаркаму.

Ініцыятары «Права выбару» так не лічаць. Найперш, яны адзначаюць, што «Права выбару» гатовае да далучэння новых сябраў-назіральнікаў, і нішто не перашкаджае далучыцца астатнім. А, па-другое, як адзначыў Садоўскі, выбарчых участкаў на мясцовых выбарах настолькі багата, што месца хопіць усім. У любым выпадку, «Права выбару» гатовае да каардынацыі.

Другая праблема — дэмакратычныя кандыдаты. У краіне вымалёўваюцца дзве апазіцыйныя кааліцыі, і абедзве кааліцыі разглядаюць мясцовыя выбары ў якасці «інфармацыйнай кампаніі». А значыць, сур'ёзна перамагаць не плануе ніхто. Ці будуць у такой сітуацыі кандыдаты, якім трэба будзе дапамагаць?

Будуць, упэўнены Лялькоў. «Зараз кампанія «Права выбару» аб'ядноўвае прыкладна 80% дзейсных апазіцыйных палітычных суб'ектаў», — заявіў ён, і на наўпроставае пытанне, ці будуць усе гэтыя суб'екты вылучаць кандыдатаў у дэпутаты, адказаў: «Так». «Інакш, без дэмакратычных кандыдатаў у дэпутаты, кампанія назірання губляе сэнс», — дадаў Садоўскі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ГАЛОЎНАЕ — ШЧЫРАСЦЬ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё ж такі ў адносінах да беларускага народа галоўнае — шчыра яму патлумачыць, чаму нешта робіцца так, а не інакш. Тады народ больш падумае, больш зразумее. І, можа, нават прабачыць. У сучасным эканамічным становішчы такая шчырасць — вельмі неабходны элемент.**




Напрыклад, канцэрн «Белнафтахім» на гэтым тыдні пайшоў на беспрэцэдэнтны крок па перакладанні сваіх стратаў на кішэню грамадзян. У той час, калі Расія мае намер скарачаць пастаўкі нафты Беларусі, светлыя розумы ў канцэрне зразумелі: не будзе нафты — не будзе бензіну. А значыць, трэба ўздымаць кошты ўжо зараз. І другі раз за месяц (чаго раней ніколі не было) павышаныя рознічныя цэны на бензін і дызельнае паліва.

З 17 верасня бензін Нармаль–80 падаражэў на 500 рублёў (або 6,8%) да 7 900 рублёў за літр, АІ–92 — К3 на 500 рублёў (6,5%) да 8 200 рублёў, бензін АІ–92 — К5 на 600 рублёў (7,7%) да 8 400 рублёў, бензін АІ–95 — К5 — на 800 рублёў (9,6%) да 9 100 рублёў. Кошт на дызельнае паліва павялічаны на 700 рублёў (8,2%) да 9 200 рублёў, дызельнае паліва «Еўра 5» — на 700 рублёў (8%) да 9 400 рублёў, дызпаліва «Арктыка» — на 800 рублёў (8,2%) да 10 600 рублёў за літр.

«Белнафтахім» тлумачыць: перагляд коштаў зроблены ў мэтах кампенсацыі павелічэння ставак акцызаў на аўтамабільныя бензіны. Але ж выбачайце, усе акцызы ўжо кампенсаваліся адзін раз — павышэннем коштаў не далей як 3 верасня! Колькі можна даіць аўтааматараў? Наколькі падаражэюць у такім разе аўтобусныя перавозкі, асабліва міжгароднія, і цягнікі?

Але патлумачылі — і добра. Пакуль што новых акцыяў кшталту «Стоп бензін» не назіраецца. Здаецца, усе на ровары збіраюцца пераходзіць.

Тое ж самае з ініцыятывай Лукашэнкі браць па сто долараў з тых, хто выязджае за мяжу. Ляпнуў ён такое ў прыступе красамоўя, не асабліва падумаўшы. Але ж выконваць пачалі! Напрыклад, Дзяржаўны мытны камітэт заявіў аб сваёй гатоўнасці спаганяць «выязную пошліну» з беларусаў. «Калі будзе прынятае дырэктыўным органам Беларусі адпаведнае рашэнне, мытныя органы ў рамках вызначанай у гэтым рашэнні кампетэнцыі будуць яго выконваць», — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік старшыні ДМК Сяргей Барысюк.

Ён даў зразумець, што тарыфы фармуюць адпаведныя органы, а мытная служба іх спаганяе. «Груз, падкантрольны той ці іншай службе, на мяжы выяўляе мытнік і накіроўвае грузаўладальнікаў у адпаведныя службы», — канстатаваў намеснік старшыні ДМК.

**«Калі будзе прынятае дырэктыўным органам адпаведнае рашэнне, мытныя органы ў рамках вызначанай у гэтым рашэнні кампетэнцыі будуць яго выконваць», — заявіў намеснік старшыні ДМК Сяргей Барысюк**

Па дадзеных Барысюка, усяго ў гэтым годзе праз дзяржаўную мяжу перамешчана 20 мільёнаў 774 тысяч фізічных асобаў, з якіх асобы, якія маюць грамадзянства Беларусі, складаюць 12 мільёнаў 536 тысяч чалавек. Гэта ж больш за мільярд долараў «міма касы» праляцела!

І не трэба тут асабліва думаць, як і каму плаціць. Трэба пасадзіць аднаго мытніка з адрыўнымі квіткамі, як у кандуктара ў аўтобусе, і хай яму кожны плаціць па «сотцы». І ўся гатоўнасць мытнага камітэта.

Пакуль што напаўняльнасць бюджэту не радуе. А таму найбольш узрадавала шчырасць старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай падчас «прамой лініі» на сайце БелТА. Гэта табе не спадар Пракаповіч з ягонымі заявамі пра «крызісу не будзе», «дэвальвацыі не будзе». Яна вельмі шчыра прызнала: дэвальвацыя ёсць, і яе не можа не быць. «Паступовая дэвальвацыя ў нас ідзе... Але мы не павінны дапусціць разавай дэвальвацыі — гэта будзе згубна для эканомікі. Яна не дала таго выніку, які мы хацелі б атрымаць. Напэўна, яна ў прынцыпе рэдка дае чаканы вынік», — заявіла Ермакова ў анлайне БелТА. «Таму бягучая плаўная дэвальвацыя, якая прадугледжана зыходзячы з сярэдняга курсу рубля, які павінен працаваць у эканоміцы (сярэдні курс 9 500 рублёў за долар на 2014 год), гэта таксама ёсць дэвальвацыя», — дадала яна.

Аблегчыла душу спадарыня Ермакова — усім добра. І ёй добра, што праўду сказала, і народу добра: усе ведаюць, што Нацбанк не тое што абмяжуецца — ужо зараз праводзіць плаўную дэвальвацыю, а калі яе праводзіць, то, натуральна, будзе праводзіць да канца. А значыць, рэзкага абвалу, пакуль праходзіць плаўная дэвальвацыя, не будзе. Вось і ўвесь сказ.

Наколькі гэтая «плаўная» дэвальвацыя працягнецца, і які будзе курс рубля да долара пры яе заканчэнні, калі яна скончыцца, і ці скончыцца яна ўвогуле, — таямніца. Але народу ж шчыра пра гэта паведамілі.

Але што мы ўсё пра дрэннае ды пра дрэннае? Улада клапоціцца не толькі пра тое, каб нам было кепска, але і пра тое, каб нам было б добра. Прыкладам, улады не прыдумалі, якім чынам браць грошы з тых, хто ў лякарню нецвярозым патрапіў. А таму вырашылі галаву больш не тлуміць і проста адмовіліся ад такой ідэі.

Як паведаміў член пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы Дзмітрый Шаўцоў, на стадыі разгляду папраўак у закон Беларусі «Аб ахове здароўя» норма, якая прадугледжвае, што пацыенты, якія паступілі ў медычныя ўстановы ў нецвярозым стане, будуць кампенсаваць выдаткі на сваё лячэнне, з законапраекта была выключаная.

Пытанне з кампенсацыяй выдаткаў на аказанне медпамогі нецвярозымі пацыентамі, ініцыятарам якога стаў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, доўга абмяркоўвалася парламентарамі, на ўзроўні Міністэрства аховы здароўя і практыкуючымі медыкамі. Прапанову падтрымаў міністр аховы здароўя Васіль Жарко. «Прапанова было вельмі шмат, але дакладны, ясны механізм кампенсацыі выдаткаў выпрацаваць не ўдалося. А зрабіць яго дваякім для трактавання недапушчальна», — адзначыў Шаўцоў.

«А ну яго ў пень», — падумалі дэпутаты. У выніку ў законапраекце засталася норма, якая ў цэлым прадугледжвае, што чалавек, які здзейсніў супрацьпраўныя дзеянні, у выніку якіх пацярпелі людзі, павінен пакрыць выдаткі на іх лячэнне. І толькі.

Такім чынам, шчыра патлумачыўшы свае дзеянні, апраўдаць можна практычна ўсё. Галоўнае, каб народ паверыў. І трэба не парабольшваць. Бо на трэці раз апраўданне пра тое, што бензін падаражэў у сувязі з павышэннем акцызаў на паліва — не пракаціць. Гэта ўжо па-за сумленнем.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СВЯТЛАНА МАРКІЯНАВІЧ



Ёсць жанчыны ў беларускіх паселішчах! Напачатку жніўня «Новы Час» пісаў, што беларуска Святлана Маркіянавіч трапіла ў палон у Сірыі па падазрэнні ў шпіянажы на «Хезбала». Выбралася з палону беларуска таксама ў стылі Джэймса Бонда.

Святлана проста збегла з палону. Паводле цёткі Маркіянавіч, Ірыны Канстанцінаўны, Святлана і зняволеная разам з ёй грамадзянка Малдовы Карына Кальцо скокнулі з другога паверху будынка, дзе іх утрымлівалі. Яны здолелі дабегчы да святога для мусульман месца — мячэці, дзе іх прытуліў імам. Імам звязаўся з беларускім консулам, пасля чаго Маркіянавіч была перапраўлена ў Ліван.

Беларускія і малдоўскія дыпламаты займаюцца адпраўкай дзяўчат дадому. «Па наяўнай інфармацыі, беларуская грамадзянка знаходзіцца ў бяспечным месцы, яе жыццю нічога не пагражае. У цяперашні час прапрацоўваюцца варыянты адпраўкі грамадзянкі Беларусі на радзіму», — заявіла намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС Марыя Ваньшына.

«Зараз яна задаволеная, радасная, што жывая. Там ужо пайшлі пагрозы пра расстрэл, таму яны і вырашылі збегчы», — кажа Ірына Канстанцінаўна.

Цікава, а калі б размовы пра расстрэл не пайшлі, колькі б Святлана яшчэ заставалася з гарачымі арабскімі хлопцамі?

### ДАР'Я ДОМРАЧАВА



Беларуская прыма біятлону стала адной з найбольш высокааплатных спартсменак у сваім сегменце. Па выніках мінулага сезону яна ўвайшла ў дзясятку самых багатых біятланістак. Домрачава здолела зарабіць 131 400 еўра.

На першым месцы апынулася Тура Бергер (Нарвегія) — яе заробак склаў 277 800 еўра. Бергер была непаражальная і нястомная: ні адной прапушчанай гонкі, уключаючы эстафеты, 11 перамог і 20 подыюмаў у 26 асабістых стартах, плюс хоць бы адно трапленне ў топ–3 на кожным з этапаў.

Рэальнае суперніцтва паміж Бергер і Домрачавай спынілася яшчэ да Новага года, прычым, у адрозненне ад Туры, па частцы заробкаў Дашы яшчэ і не вельмі пашанцавала з камандай. Восем эстафетных спробаў (дзве змяшаныя плюс шэсць чыстых) не прынеслі Дар'і ані цэнта.

Зрэшты, Домрачава зараз з'яўляецца на беларускім тэлебачанні як рэкламны твар «Белдзяржстраха». Колькі ёй заплацілі за здымкі ў рэкламе і за гэтую дзейнасць — невядома. Але, напэўна, нямала.

### СЕЛЕНА ГОМЕС



Селена Гомес праз расійскую сістэму выдачы віз пакрыўдзілася на ўвесь СНД. Арганізатары канцэртаў Гомес афіцыйна заявілі пра адмену канцэртаў спявачкі ў Беларусі, Расіі і Украіне.

Як паведамляюць арганізатары, цяперашняя сітуацыя з'яўляецца адгалоскам скандалаў вакол канцэртаў Мадонны, Лэдзі Гага і «Bloodhound Gang». Мадонна і Лэдзі Гага падчас канцэртаў актыўна выказваліся ў падтрымку сэксменшасцяў у Расіі, выклікаўшы тым самым хвалю незадавальнення ў кансерватыўнай грамадскасці. Здавалася б: не падабаецца — не слухай. Але пасля гэтага афіцыйныя органы Расіі перагледзелі сваё рашэнне па выдачы расійскіх віз для замежных музычных і творчых калектываў. У выніку было забаронена выдаваць візы па лініі Міністэрства культуры, як гэта рабілася ў апошнія 20 гадоў.

У канцы жніўня ў выніку доўгіх перамоваў вядучых расійскіх прамоўтараў з МЗС РФ і ФМС РФ была ўзгоднена часовая працэдура афармлення расійскіх віз замежным артыстам па спрошчанай схеме. Арганізатары канцэртаў Селены Гомес здолелі падрыхтаваць неабходны пакет дакументаў на расійскія візы толькі да пачатку верасня, але менеджмент спявачкі адмовіўся афармляць іх у больш позні тэрміны і па новых правілах.

Услед за гэтым Селена Гомес вырашыла скасаваць дагавор і адмяніць усе выступы ў СНД, уключаючы Украіну і Беларусь. Больш за тыдзень арганізатары вялі актыўныя перамовы з прадстаўнікамі артысткі з мэтай правесці канцэрты, але змяніць сітуацыю не ўдалося.

Перыяд вяртання грашовых сродкаў за квіткі на мінскі канцэрт: 19 верасня — 19 кастрычніка.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# ЭСТОНІЯ: РУСКІЯ — ЯНЫ

**Жаданне стаць суб'ектам — жаданне свабоднага чалавека ў свабоднай краіне, якое і адрознівае яго ад бяспраўнага і бязмоўнага падданага дэспатыі. Але калі гаворка пра калектыўную суб'ектнасць — рускай меншасці ў Эстоніі, ці не азначае такое жаданне адмову ад прызнання за эстонскай дзяржавай права заставацца ўсё ж такі эстонскай?**



Від на Івангародскую крэпасць з байніцы Нарвскага замку. Расія на адлегласці стрэлу з лука



Сцэна са спектакля «Рускія, яны такія»

## Адпачыць ад рускай мовы

Ужо на другі дзень гасцявання ў Эстоніі мяне ахапіла незвычайнае адчуванне слыхавога камфорту. Атмасферу вакол нас забруджваюць не толькі прамысловыя выкіды і аўтамабільныя выхлапы, кожны дзень у вушы гараджаніна ўліваецца вялізны струмень гукавой інфармацыі, большую частку якой можна назваць «непажаданай». Я б хацеў ніколі ў сваім жыцці не чуць песні «О божа, які мужчына», але мінулым летам у Мінску чуў яе столькі разоў, што яна, нібы іншароднае цела, засела ў маёй галаве. А тут — рассмакталася. Ні ў транспарце, ні з вокнаў, ні на мабільных тэлефонах — нідзе не было гэтай навязлівай рэкламы паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі любімі сродкамі.

Пазней, прыехаўшы з выспы Саарэмаа на аўтавакзал у Таліне, я зразумеў, што адпачываў наогул ад рускай мовы.

У Беларусі на рускай мове размаўляе пераважная большасць насельніцтва, чытае на ёй, глядзіць фільмы і слухае музыку — хіба руская мова не родная для беларусаў? Па ўсім выходзіць, што родная. Як жа можна стаміцца ад роднай мовы? Наадварот, людзі звычайна радуюцца, пачуўшы родную гаворку за мяжой.

Мне і самому фармальна цяжка назваць сябе беларускамоўным чалавекам, таму што большую частку жыцця я карыстаўся рускай мовай. Яна была першай, вывучанай у дзяцінстве, і цяпер застаецца асноўнай мовай зносінаў. Аднак радасна кінуўся да незнаёмых людзей у Эстоніі я толькі аднойчы — пачуўшы, як мне падалося, размову па-беларуску ў Нарве. Руская мова ні з кім мяне не родніць, як не родніць добрае валоданне англійскай з яе носьбітамі. Калі ж казаць пра тое, што мова — культурны код, у якім закладзена філасофія жыцця чалавека, яго сістэма каштоўнасцей, стыль паводзін, лад мыслення, руская з цягам часу робіцца для мяне ўсё больш чужой.

І гэта ненармальна — пастаянна ў глыбіні душы адчуваць сябе чужым сярод чужых на сваёй зямлі. Таму на чужыне ўздыхаеш з палёгкай, бо тут падобнае становішча прынамсі ў парадку рэчаў.

## Пазбавіцца маскоўскага погляду на рэчы

На пероне аўтавакзала ў Таліне давялося назіраць такую сцэну. З жанчыны, якая ішла разам з маладым чалавекам, упала нашыйная хустка. Яны не адразу тое заўважылі. Калі заўважылі, малады чалавекам гучна прамовіў: «Галоўнае — усе ж маўчаць!» І дадаў, гледзячы вакол воўкам: «Эсты, блін!»

Пэўная частка рускай супольнасці ў Эстоніі таксама пачуваецца чужой у варожым асяроддзі. Каментары на рускамоўных сайтах там вельмі нагадваюць каментары на сайтах беларускіх СМІ. Яны прасякнутыя духам канфрантацыі і варожасці да ўсяго, што адбываецца ў «гэтай краіне». Добрыя навіны выклікаюць скептычнае стаўленне, кепскія — непрыхаваную зларадасць.

Ці азначае гэта, што ўсе рускія жыхары Эстоніі, а яны складаюць каля 25% насельніцтва, знаходзяцца ў непрымірымай апазіцыі да эстонскай дзяржавы? Увогуле, наколькі аднастайнай можна лічыць рускую супольнасць?

Пра гэта мы пагутарылі з Савам Цярэнцьевым, музыкам з Сыктыўкару, супраць якога ў 2007 годзе была распачата крымінальная справа за каментар у блогу — першая падобная справа ў Расіі. У 2011 годзе ён атрымаў палітычны прытулак у Эстоніі, дзе і жыве цяпер разам з жонкай і сынам:

— Вядома ж, супольнасць вельмі неаднастайная, — расказвае Сава. — Проста прывяду шэраг прыкладаў. Неяк у талінскім трамваі я чуў маналог рускага хлопца, які разважаў пра тое, як добра было б, калі б немцы не габрэяў забівалі ў часы Трэцяга рэйху, а эстонцаў. Напэўна, ён не адзін, хто так лічыць.

Наадварот, у Тарту давялося пазнаёміцца з рускім з Нарвы, які з цяжкасцю падбіраў правільныя словы на роднай мове, і рабіў гэта з моцным эстонскім акцэнтам. Ведаю, што і гэты выпадак не адзінкавы.

У тым жа Тарту ёсць вельмі паважаны прафесар універсітэта, які, па яго ўласным прызнанні, маючы сіні пашпарт (пашпарт грамадзяніна Эстоніі — заўвага аўтара), не вельмі добра валодае дзяржаўнай мовай, што не перашкаджае яму працаваць у самым прэстыжным ВНУ ў краіне.

У мяне ёсць два знаёмых, вельмі паспяховых бізнэсоўцы, якія займаюцца гандлем у самым цэнтры Таліна. Абодва нарадзіліся тут. Адзін свабодна гаворыць на эстонскай мове, пры тым, што нават не скончыў сярэдняй школы, другі школу скончыў, але пагарджае ўсім эстонскім, у тым ліку і мовай, маўляў, ні слова «па-чухонску» не ведаю і ведаць не хачу. Ва ўсіх гэтых людзей разнастайны бэкграўнд, розная карма і розны лёс.

Павел Марозаў, палітуцякач з Беларусі, якому пагражала да чатырох гадоў турмы па справе сатырычнага інтэрнэт-праекту «Мультклуб», лічыць сябе «цалкам інтэграваным у эстонскае грамадства»:

— Думаю, асноўная ўмова ў тым, каб адчуваць сябе сваім у гэтым грамадстве, — гаворыць Павел. — Часам заўважаю парадокс, што некаторыя мясцовыя рускамоўныя жыхары значна больш чужыя Эстоніі, хоць і нарадзіліся тут і выраслі, чым я, які жыве тут усяго 7 гадоў. Важна мець павагу і разуменне мясцовых парадкаў і спецыфікі.

Але, на яго погляд, беларусам усё-ткі прасцей, бо ў іх няма такой ментальнай сувязі з Расіяй, яны не мысляць яе катэгорыямі, таму не адчуваюць сябе ў варожай краіне.

— Частка рускім людзям складана пазбавіцца ад маскоўскага погляду на рэчы. І цікава, што на ўскраінах былой імперыі сустракаюцца больш махровыя імперыялісты, чым у яе цэнтры, — заўважае Павел.

Юры Суторын, жыхар талінскага раёна Ласнамяэ, ужо шмат гадоў нястомна і карпатліва даводзіць на ўсіх даступных яму інтэрнэт-пляцоўках, што Эстонія — «часова акупаваная сепаратыстамі тэрыторыя», дадаючы, што «прыйдзе час, калі мы вернем яе цалкам, а сепаратыстаў пакараем». Талін ён называе «горадам Калывань Прыбалтыйскай Федэральнай Акругі Расіі».

Людзі кшталту Суторына крычаць грамчэй за ўсіх, адбітак іх імперскага шалу кладзецца на ўсю рускую супольнасць, але калі паглядзець дадзеныя маніторынгу інтэграцыі (за 2011 год), «зусім не інтэграваныя» ў эстонскае грамадства толькі 13% прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якія пражываюць у Эстоніі, тады як «цалкам інтэграваныя» — 32%. За прыкметы інтэграцыі прымалася веданне эстонскай мовы, наяўнасць грамадзянства Эстоніі, стаўленне да Эстоніі як да радзімы і атаясамленне сябе з народам Эстоніі.

## Замкнёныя ў гета

І ўсё ж такі карціна далёкая ад ідэальнай, хаця і не такая катастрафічная, як падаецца, калі чытаеш каментары на рускамоўных эстонскіх сайтах.

Суторыну я спачуваць, вядома, не магу, у яго выпадку можна толькі здзівіцца, што за ўсе гады сваёй дзейнасці па актыўным распальванні варажнечы паміж эстонцамі і рускімі ён атрымаў толькі 100 еўра штрафу. Аднак спісваць праблему выключна на «імперыялізм галаўнога мозгу» асобных прадстаўнікоў рускай супольнасці я б таксама не спяшаўся. Бо магу прымераць сітуацыю на сябе — як чалавек, адчужаны ад краіны свайго нараджэння і пражывання.

Рускія, якія прыязджаюць у Эстонію цяпер, не маюць да яе прэтэнзіяў, бо яны свядома едуць у іншую краіну, з устаноўленымі там сваімі парадкамі. Атрымаецца ці не атрымаецца — гэта ў каго як, але звычайна эмігрант едзе з імкненнем інтэгравацца. Зусім іншая справа, калі ты ніадкуль не прыязджаў, а вакол цябе раптам змянілася краіна. І ты ў гэтай новай краіне — не прышыты кабыле хвост.

Памятаю, як мяне ледзь не да слёз пранізала пачуццё адчужанасці. Гэта было падчас нейкага ўсенароднага свята, людзі вакол весяліліся, як звычайна, я таксама прыйшоў павесяліцца, толькі нічога не атрымалася — вакол была не мая краіна і свята не маё.

Потым нас ужо амаль афіцыйна зрабілі чужынцамі на сваёй зямлі, запісалі ў «пятую калону», пазбавілі права абіраць і быць абранымі, займаць пасады ў дзяржаўных органах, змусілі замкнуцца ў цесным гета.

Многія рускія ў Эстоніі лічаць, што з імі адбылося тое ж самае. Большая іх частка даволі доўгі час была выкінутая з палітычнага жыцця. І адначасова прыняла на сябе ці не самы балючы ўдар падчас эканамічнай трансфармацыі, чаго з апазіцыйна настроенай часткай беларускага грамадства ўсё ж такі не было.

## Тут ім усё незнаёмае ды нясвойскае

Калі параўнанне з сітуацыяй грамадзян ва ўмовах дыктатуры падаецца вам кульгавым, можна правесці іншую паралель, згадаўшы палемічнае эсэ філосафа Валянціна Акудовіча «Без нас», у якім ён вынес жорсткі, ледзь не смяротны, прысуд ідэалогіі нацыянальнага Адраджэння:

«У адзіноце мы засталіся не таму, што ад нас нехта адышоў, а таму, што абсалютная большасць жыхароў дзяржавы, у якой мы тулімся па завуголлі, і не збіралася выпраўляцца на адкрытую намі «новую зямлю». Нават калі б па загадзе Лукашэнкі іх заштурхалі да нас дуламі аўтаматаў, і тады б яны ўпотайкі паразбягаліся па сваіх утульных засценках.

Бо тут усё ім незнаёмае ды нясвойскае. Вакол нейкія Альгерды, Вітаўты, Сапегі, нейкае ВКЛ, БНР, нейкі СБМ і безліч няўцямнага іншага. Ну добра, да незнаёмага спакваля можна прызвычаіцца.

Але як жыць без таго, што напаўняла жыццё сэнсам і значэннем — без майскіх і акцябрскіх святаў; без трактарнага і аўтамабільнага заводаў, якія ты колісь збудаваў і на якіх адпрацаваў ладны кавалак веку; без гонару за перамогу ў вялікай вайне, якую выйграў асабіста ты; без успамінаў пра палёты ў космас Гагарына і свайго роднага Кавалёнка... Дый увогуле, што ты забудзеш на гэтай голай выспе, адкрытай усім скразнякам свабоды, калі ў цябе ёсць магутная звышдзяржава, якую ты ствараў уласнымі крывёю і потам і якая праз сваю веліч надавала велічы і табе?»

Замест таго, каб стаць рухавіком пераўтварэнняў на правах большасці, як эстонцы ў сваёй краіне, нацыянальна арыентаваная




Рускія газеты

# ТАКІЯ

супольнасць у Беларусі нечакана для сябе апынулася ў становішчы эстонскіх рускіх. З розных прычынаў, але абедзве меншасці, кожная на сваёй «новай зямлі», куды іх завялі іншыя, сталі чужынцамі.

## Лепшае жыццё для рускага чалавека на любы густ

«Я ўсё пакладу на тое, каб рускаму чалавеку ў Беларусі жылося лепш, чым у Расіі. І мы гэта робім. Гэта сутнасць, соль нашай палітыкі», — сказаў калісьці Лукашэнка.

Гэтае выказванне, паўторанае потым шматкроць на розны лад, добра ведаюць расіяне. Многія з іх расталі ад такой рыторыкі і назаўжды аддалі сваё сэрца беларускаму кіраўніку.

Наўрад ці яны ў курсе, што жыццё «лепей, чым у Расіі», абяцае рускай меншасці і эстонскі прэзідэнт Хендрык Ільвэс.

Пасля абрання ў 2006 годзе свой першы візіт унутры краіны прэзідэнт нанёс у павет Іда-Віру, насельніцтва якога пераважна рускамоўнае. Выступаючы ў Нарве перад рускай моладдзю, ён заклікаў яе не адчуваць сябе ў Эстоніі чужымі, абяцаючы ёй большыя дэмакратычныя свабоды і магчымасці самарэалізацыі, чым па іншы бок Наровы.

Пазней Ільвэс таксама вяртаўся да тэмы зайздроснага становішча рускіх у Эстоніі, у параўнанні з рускімі ў Расіі: «Эстонія — месца, дзе чалавек можа жыць, атрымліваць рускамоўную адукацыю, рабіць справы на рускай мове, жыць ва ўмовах свабоды слова прававой дзяржавы. Гэта тая цудоўная магчымасць, якой зайздросціць маскоўская і пецярбургская інтэлігенцыя, лібералы», — казаў ён у інтэрв'ю ў 2011 годзе.

Нават сам зайздросціш міжволі рускаму чалавеку. Там і тут яму прапануюць лепшае жыццё, чым у яго на радзіме, на любы густ — варыянт для дзяржаўнікаў, варыянт для лібералаў.

## Палякі ў Беларусі і рускія ў Эстоніі

«Соль» найноўшай нацыянальнай палітыкі ў Беларусі была не ў наданні шырокіх правоў для рускай меншасці, а ў стварэнні ўмоваў, пры якіх ужо не разбярэш, дзе тут хто. На фоне русіфікаванага насельніцтва ўласна рускую меншасць вылучыць цяжка.

Асабняком стаяць палякі. Палякаў у нашай краіне каля 300 тысяч. Амаль столькі ж, колькі рускіх у Эстоніі. Пра іх Лукашэнка сказаў быў: «Гэта нашы палякі, мае выбаршчыкі. Я за іх адказваю і буду рабіць усё, каб ім у Беларусі было добра».

Што ж яны маюць як нацыянальная меншасць? Дзве школы з некалькімі сотнямі вучняў, адну штотыднёвую газету, адзін часопіс, чатыры цэнтры вывучэння польскай культуры і польскай мовы. Пасля інспіраванага беларускімі ўладамі расколу Саюза палякаў адбыўся рэйдарскі захоп гэтых цэнтраў, створаных калісьці пры фінансавай падтрымцы польскай дзяржавы. У выніку чаго з 14 цэнтраў, якія адышлі праўладнаму Саюзу палякаў, 12 былі зачыненыя. Прадстаўнікі неафіцыйнага Саюза пастаянна падвяргаліся адміністратыўнаму і крымінальнаму пераследу. Дэпутатам, дзяржслужачым, ваенным і міліцыянтам у Беларусі забаронена законам мець і атрымліваць «Карту паляка».

Што тычыцца ўдзелу ў палітычным жыцці краіны, тут палякі знаходзяцца ў роўных умовах з усімі астатнімі — ніяк не ўдзельнічаюць.

У гэтым годзе ў Эстоніі заканчваецца працэс пераводу выкладання 60% прадметаў у рускіх гімназіях на эстонскую мову. Расійскія СМІ падаюць гэта як ледзь не ліквідацыю рускай школы. Магчыма, з-за розніцы ў тэрміналогіі: гімназія ў Эстоніі — гэта 10–12 класы. Дзевяцікласную адукацыю і цяпер можна атрымліваць поўнасцю на рускай мове. У адным толькі Таліне, дзе жыве 145 тысяч рускіх, працуюць 20 школаў з рускай мовай навучання, у Нарве — 10.

Пакуль адны вядуць барацьбу за захаванне рускай школы, іншыя аддаюць сваіх дзяцей у эстонскія школы, нават у паўночна-заходнім, самым рускім рэгіёне. На гэта наракае апошні інфармацыйны бюлетэнь аб'яднання «Руская школа Эстоніі». Паводле бюлетэня, бацькі выходзяць з меркавання, што будучы поспех іх дзяцей залежыць ад ведання дзяржаўнай мовы, і многія з іх рады пераводу гімназій на эстонскую мову навучання.

Варта адзначыць, што ў падтрымку тых, каго такі перавод не радуе, выказваюцца не толькі прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў, але і некаторыя чыноўнікі. Гэтак, мэр Нарвы Тармо Тамістэ, з якім мы без цяжкасцяў гутарылі па-руску, адзначыў, што калі б яму, крый Божа, давялося размаўляць пра матэматыку, фізіку або хімію, ён бы разгубіўся і сеў у лужыну. На яго погляд, варта было б пакінуць магчымасць вывучаць дакладныя прадметы на роднай мове.

Тармо Тамістэ належыць да Цэнтрысцкай партыі. Многія эстонцы схільны лічыць яе «пракрамлёўскай» з-за падпісання дамовы аб супрацоўніцтве з партыяй «Адзіная Расія». На парламенцкіх выбарах 2011 года цэнтрысты, якія прадстаўляюць інтарэсы рускай меншасці, атрымалі 23,3% галасоў і 26 месцаў у Рыйгікогу.

Не толькі Цэнтрысцкая партыя, усе эстонскія партыі так ці інакш звяртаюцца да рускай меншасці. Нават у кансерватыўна-нацыяналістычнай партыі «Isamaa ja Res Publica Liit» (20,5% галасоў і 23 месцы ў Рыйгікогу) дзейнічае Рускае аб'яднанне, мэта якога — «удзел у фарміраванні палітыкі партыі, а таксама данясенне кіраўніцтву партыі пазіцыі рускамоўных сяброў партыі па ключавых дзяржаўных пытаннях».

У Эстоніі распаўсюджваюцца восем газет на рускай мове. Апроч «Камсамольскай праўды ў Паўночнай Еўропе», усе — эстонскія. Працуюць чатыры радыёстанцыі, транслююцца шэсць тэлеканалаў: тры прыватныя эстонскія тэлеканалы (Orsent TV, TVN, TBN Baltia), яшчэ тры (3+, ПБК і РЕН-ТВ Эстонія) робяць навіны і некаторыя перадачы ў Эстоніі, астатні кантэнт закупляюць у Расіі.



Калевіпоэг — герой эстонскага фальклору. Скульптура ў Таліне




Абразлівая мянушка, якую далі неінтэграваныя рускія тым, хто вырашыў інтэгравацца. Сцэна са спектакля «Рускія, яны такія»

Улад Капылкоў, вядучы грамадска-палітычнага ток-шоў «Шматкроп'е» на канале Orsent TV, расказаў, што пастаянна запрашае ў студыю людзей з рознымі пунктамі гледжання на інтэграцыю і праблему рускіх Эстоніі.

У Таліне дзейнічае Рускі тэатр Эстоніі, працуе кнігарня з вялікім выбарам літаратуры на рускай мове, а ўсе замежныя фільмы ў кінатэатрах ідуць з субтытрамі на эстонскай і рускай мовах.

## Не падабаецца быць аб'ектам

Улічваючы ўсё вышэй напісанае, становішча рускіх у Эстоніі не вельмі падобнае на становішча, у якім звычайна знаходзяцца дыскрымінаваныя нацыянальныя меншасці. Міжволі напрошваецца пытанне: чаго ж яны яшчэ хочуць?

Сяргей Серадзенка, спецыяліст па канстытуцыйным праве, сфармуляваў гэтае жаданне ёміста і афарыстычна. Пасля публікацыі артыкула эстонскага пісьменніка і драматурга АндрусаКівірахка «Якога рускага мы хочам?» у выданні «Paevaleht», ён патэлефанаваў туды і папрасіў апублікаваць яго адказ. Серадзенка цытуе сваю размову з рэдакцыяй:

— Пра што вы хацелі напісаць?

— Я хачэў напісаць тэкст пад назвай «Якія эстонцы нам патрэбныя».

— Ой, як цікава! І якія?

— Нам патрэбны эстонцы, якія не разважаюць на тэму пра тое, якія рускія ім патрэбныя.

— Мне здаецца, я разумею. Вам не падабаецца быць аб'ектам?

— Не.

Жаданне стаць суб'ектам — жаданне свабоднага чалавека ў свабоднай краіне. Якое і адрознівае яго ад бяспраўнага і бязмоўнага падданага дэспатыі.

Але калі гаворка пра калектыўную суб'ектнасць — рускай меншасці ў Эстоніі, ці не азначае такое жаданне адмову ад прызнання за эстонскай дзяржавай права заставацца ўсё ж такі эстонскай?

## Пра палітыку не кажы — можаш атрымаць па мордзе

«Рускія, яны болей эмацыйныя і... непрадказальныя», — сказала мне Мэры Палмік, настаўніца геаграфіі з Кохтла-Ярвэ, рабочага рускага гораду. Яна не размаўляе па-руску, таму я спытаўся, ці не адчувае яна сябе тут чужой? Мэры катэгарычна запярэчыла. У краме, банку, на прыёме ў доктара яна лёгка абыходзіцца эстонскай.

Непаразуменне ўзнікае, калі пачаць размаўляць з вучнямі рускай гімназіі пра палітыку. «Яны не слухаюць эстонскія навіны, а слухаюць маскоўскія. Часам яны пытаюцца ў мяне, чаму Эстонія не сябруе з Расіяй? А я пытаюся ў іх, чаму яны так думаюць, што Эстонія не сябруе, магчыма, гэта Расія ставіцца да нас не пасяброўску? Ім нават у галаву такі варыянт ніколі не прыходзіў...»

Марыя Пеэп, 75-гадовая жанчына-гід з Курэссаарэ, мяркуе, што рускія дабрэйшыя, чым эстонцы: «Летась мне прапаноўвалі ў трамваі 6 разоў месца, і кожны раз гэта быў рускі. А аднойчы, калі я выйшла з аўтобуса, адзін малады чалавек сказаў, што ў мяне цяжкі чамадан, ён дапаможа, і данёс мой чамадан да нашага дома. Я спытала, дзе ён сам жыве, на гэтым баку вуліцы ці на іншым, а ён адказаў, што на наступным прыпынку. Ён убачыў, што ў мяне цяжкі чамадан, і выйшаў, каб дапамагчы. Ён таксама быў рускі. У штодзённым жыцці рускія дабрэй за эстонцаў. Але пра палітыку не кажы — можаш атрымаць па мордзе».

## Рускія, яны такія

Наталля Мачэнене, прадзюсар спектакля «Рускія, яны такія», які быў спробай «разабрацца ў саміх сабе», як ахарактарызавала яго рэжысёр Юлія Ауг, не мае эстонскага грамадзянства і не валодае эстонскай мовай.

«Чалавек з веданнем мовы можа не знайсці працу, — кажа Наталля. — І з грамадзянствам нішць і не прымаць гэтую краіну. І чалавек без ведання мовы і эстонскага грамадзянства выдатна тут жыць (ну, гэта я ўжо канкрэтна пра сябе). У мяне шмат знаёмых, у каго няма мовы і грамадзянства, і жывуць без крыўдаў, развіваюцца... Я вось кажу і думаю — ну якія «праблемы рускіх»? На маім прыкладзе магу сказаць — у мяне няма праблем з эстонцамі ні ў якім выглядзе. Ну, можа, мне хтосьці не падабаецца, але гэта не ад нацыянальнасці залежыць, а ад асабістых якасцяў чалавека.

Крыўды засталіся, зразумела, у большасці. Але прайшло ўжо больш за 20 гадоў, а людзі не могуць справіцца з крыўдамі і ўсё шмальцуюць гэтую тэму. За 20 гадоў ужо можна жыццё цалкам памяняць, і не адзін раз. Можна прафесію памяняць, краіну, светапогляд. І пачаць жыць шчасліва. А мусоліць тэму «праблемы рускіх» — гэта альбо сыход ад чагосьці, альбо проста гуляем так».

На працягу двух гадзінаў, якія ідзе спектакль, размотваецца клубок крыўдаў рускіх жыхароў Эстоніі, і чым далей, тым болей усё заблытваецца. Бліжэй да фіналу здаецца, што ніякага выйсця няма, што героі асуджаныя на непазбыўную нянавісць і адчужэнне, а краіна — на вечную разарванасць. Але раптам яны як быццам стамляюцца накручваць свае крыўды і прэтэнзіі. Кожны з іх знаходзіць прычыны любіць Эстонію і заставацца тут.

Магчыма, я б не паверыў у гэты хэпі-энд, калі б не назіраў падобнай метамарфозы жывцом. Некалькі гадзінаў мы гутарылі з Міхаілам Масарноўскім, наладчыкам з Нарвы, уладальнікам расійскага пашпарта, на беразе мора ў Нарва-Йыэсуу. Спачатку ён называў Расію «матушкай», згадваў драматычныя падзеі «Бронзавай ночы» і на чым свет стаіць кляў прэм'ер-міністра Эстоніі. Высмейваў эстонцаў, расказваючы сюжэт з іх нацыянальнага эпасу — Калевіпоэга. Маўляў, нават па ім відаць, якія яны «тармазы». Галоўнаму герою там адсеклі ворагі ногі ў сне, а ён гэта зразумеў толькі тады, калі некалькі гадзін бег за ворагамі, і сэрца яго так моцна білася, што выскачыла з раны ў назе...

Скончыў ён прызнаннем, што «гэта цудоўная краіна, я б хацеў, каб мае дзеці выраслі тут». У яго іх трое, а ў жонкі інваліднасць, яна не працуе, ён цягне ўсю сям'ю на сабе.

Міша пачаў вучыць мяне элементарным фразам з гутарковай эстонскай, і настолькі гэтым захапіўся, што калі мы вярталіся з берага мора, павітаўся па-эстонску з нейкімі няўсмешлівымі хлопцамі. Тыя панура прамаўчалі. Мішу гэта нечакана абурыла: вы што, эстонскай не разумееце, га?!

Ну, рускія — яны такія...

▸ БЕЛАРУСЬ — ЕС

# ЕЎРАПЕЙСКІ ТУПІК

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**З ухваленнем еўрадэпутатамі «дакладу Палецкіса» для Беларусі нічога не змянілася. Як і чакалася, даклад ператварыўся ў апавяданне для еўраструктураў пра тое, што дзецца ў Беларусі (прынамсі, што было паўгады таму, калі гэты даклад складаўся). Зараз еўрапейцы павінны чухаць патыліцу і выпрацоўваць новую стратэгію — на носе саміт краінаў «Усходняга партнёрства» ў Вільні, які павінныя наведаць беларускія афіцыйныя асобы.**

Дакумент Палецкіса ўяўляе сабой больш дэталёвы аналіз унутрыпалітычнага становішча ў краіне. Аднак аналіз патрэбен перш за ўсё для тых ці іншых рэкамендацый, накіраваных на паляпшэнне сітуацыі. Што ж тычыцца рэкамендацый, то тут — анічога новага. Найперш, Палецкіс рэкамендуе Беларусі вызваліць усіх палітвязняў і канстатуе, што «перадумовай для будзь-якога прагрэсу, які мог бы прывесці да зняцця санкцый і разблакоўкі двухбаковых адносін, з'яўляецца безумоўнае і неадкладнае вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітвязняў». У той жа час у дачыненні да чыноўнікаў, «адказных за парушэнні дэмакратычных выбарчых стандартаў і правоў чалавека», санкцыі адмяняцца не павінны.

ЕС, гаворыцца ў дакладзе, павінен «з найбольшай карысцю выкарыстоўваць часовае прыпыненне візавых санкцый у дачыненні да міністра замежных спраў Беларусі як дыпламатычнага канала сувязі, і яго магчымы ўдзел у саміце «Усходняга партнёрства», перш за ўсё для таго, каб садзейнічаць вырашэнню пытання аб палітвязнях». Падкрэсліваецца, што Беларусь павінна выканаць усе рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ, зняць абмежаванні на свабоду сходаў, выказвання, друку, слова для прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці і НДА, ліквідаваць перашкоды на рэгістрацыі НДА, правесці рэформы, якія гарантуюць незалежнасць судовай сістэмы, не прыводзіць у выкананне вынесеныя ў 2013 годзе смяротныя прысуды і ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

Нічога новага — гэта стандартныя патрабаванні, якія высоўваліся да Беларусі заўсёды. Аднак насцярожвае толькі тое, што саміт «Усходняга партнёрства» павінен быць выкарыстаны для размовы пра вызваленне палітвязняў.

Фактычна, гэта азначае адно: ліпеньскі візіт Уладзіміра Макея на рабочую сустрэчу міністраў замежных справаў ЕС, дзе Макею былі зробленыя таямнічыя прапановы з боку ЕС, вынікаў не даў. Больш за тое: афіцыйная беларуская дэлегацыя будзе запрошаная на саміт УП незалежна ад таго, выканаў афіцыйны Мінск тыя прапановы ЕС альбо не.

Амаль праз тыдзень пасля прыняцця «Даклада Палецкіса» кіраўнік руху «За Свабоду», былы кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч дае інтэрв'ю аўстрыйскай «Die Presse». У ім ён, у прыватнасці, кажа пра тое, што міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, які хутчэй за ўсё прыме ўдзел у Віленскім саміце, з'яўляецца «прагрэсіўным рэфарматарам», а Аляксандр Лукашэнка — гандляр. «Брусэль павінен падумаць аб тым, што Лукашэнку трэба даць магчымасць захаваць свой твар. Лукашэнка — гэта гандляр, а палітычныя зняволеныя



http://eastbook.eu

— гэта яго тавар для абмену. Ён павінен атрымаць ясную прапанову для таго, каб пасля гэтай сустрэчы на вышэйшым узроўні актывісты больш не затрымліваліся», — лічыць Мілінкевіч.

Мілінкевіч прасоўвае ўдзел афіцыйнай дэлегацыі Беларусі ў саміце УП для таго, каб палітвязні былі вызваленыя. Гэта добра. Але дрэнна тое, што пры гэтым парушаецца асноўны прынцып, на якім стаіць ЕС у дачыненні да Беларусі: спачатку вызваленне — потым перамовы. І даклад Палецкіса, і Аляксандр Мілінкевіч прапануюць удзел афіцыйнаму Мінску ў Віленскім саміце (чытай — дыялог), без выканання галоўнай умовы ЕС.

Між тым, усё павінна быць наадварот. Да Віленскага саміту засталося каля двух месяцаў. І зараз — найлепшы шанец для Еўропы дамагчыся свайго. Трэба не аслабляць пазіцыю плануемымі размовамі пра палітвязняў на саміце УП, а наадварот, узмацніць яе. Калі ўжо беларускі бок так ірвецца на саміт, то трэба патрабаваць вызвалення палітвязняў (не толькі Міколы Статкевіча, але і Ігара Аліневіча, і Андрэя Гайдукова, і іншых) не «пасля», а «да» саміту. Менавіта гэта можна паставіць умовай для ўдзелу ў саміце прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска.

Гэта будзе выкананнем патрабавання Еўропы: «Ніякага дыялогу, пакуль ёсць палітвязні», а сам дыялог можна пачаць на саміце. Тады будзе задаволеная і афіцыйная беларуская дэлегацыя, якая на саміт патрапіць, і ўлада, калі з вызваленнем «палітычных» у апазіцыі пачнуцца «разборкі» (а без гэтага, пэўна, не абыдзецца, да гэтага мы ўжо прызвычаіліся). У такім разе на саміт УП беларуская апазіцыя паедзе з аслабленай пазіцыяй (выбачайце за каламбур) — палітвязні ўжо выпушчаныя. І Еўропа мае поўнае права распачаць на саміце той самы «дыялог для мадэрнізацыі Беларусі», пра які яна так доўга казала і на чым настойвала.

▸ СУСТРЭЧЫ

# Гельмут Шміт: БЕЛАРУСЬ МУСІЦЬ РАБІЦЦА БОЛЬШ ПРЫВАБНАЙ

Генадзь КЕСНЕР

**22 верасня адбудуцца выбары ў Бундэстаг — нямецкі федэральны парламент. У рамках падрыхтоўкі да выбараў Берлінская школа журналістаў (BJS Berliner Journalisten-Schule) зладзіла шэраг сустрэчаў з вядомымі германскімі палітыкамі і палітолагамі.**



Фота аўтара

Адной з самых цікавых сустрэчаў, якая адбылася ў Гамбургу, была размова з былым канцлерам Германіі, сацыял-дэмакратам Гельмутам Шмітам, які восем гадоў (1974–1982) ачольваў урад краіны, быў адным з бліжэйшых паплечнікаў і сяброў свайго папярэдніка, славутага канцлера Вілі Брандта.

Гэтаму слыннаму палітыку, які стаўся пятым федэральным канцлерам у найноўшай гісторыі ФРГ, 23 снежня 2013 года споўніцца 95 (!) гадоў. Але Гельмут Шміт і сёння застаецца вельмі ўплывовай асобай на палітычным полі ФРГ. Ён пастаянна ўдзельнічае ў подыюмных дыскусіях, выступае ў тэлепраграмах, дае свае ацэнкі, часта вельмі жорсткія, таму, што адбываецца ў Германіі і ў свеце.

А яшчэ ён амаль беспярэпынна паліць. Прычым, у Германіі нават існуе негалоснае правіла, што Гельмуту Шміту дазваляецца «дыміць» там, дзе ён захоча.

Экс-канцлер гутарыў з намі ў офісе вядомай газеты «ZEIT» дзве гадзіны, практычна не выпускаючы з рук цыгарэту і час ад часу пацягваючы багата разбаўленую малаком каву. Прапаную некаторыя моманты з той гутаркі. Пытанні задавалі ўсе прысутныя журналісты, і на ўсё Шміту было што адказаць.

***— Ці магчыма, што пасля гэтых выбараў у Германіі з'явіцца новы канцлер і ФРГ можа змяніць свой палітычны курс?***

— Я не прарок, каб даваць такія прагнозы. Але ўсё ў гэтым жыцці магчыма. Хоць галоўнае — у іншым. Сёння ні дзеючы ўрад, ні апазіцыя не гатовыя да таго, чаго чакаюць ад Германіі іншыя ўдзельнікі Еўрасаюза, — плаціць. І тыя, і другія баяцца прызнацца выбарцам, што Германіі давядзецца плаціць за еўрапейскую ідэю, да чаго большасць выбаршчыкаў не гатовая. Але гэта ўсё роўна давядзецца рабіць, і нікуды ад гэтага не падзецца.

Што тычыцца праблемных рэгіёнаў, то, я мяркую, ім будуць спісаныя запазычанасці, з чаго пацерпяць банкі і страхавыя кампаніі. Гэта будзе яшчэ вельмі доўгі працэс, працэс няпростых стасункаў паміж Германіяй, іншымі краінамі-донарамі і тымі краінамі, якія маюць высокую запазычанасць.

***— Некаторыя краіны ЕС, напрыклад, Балгарыя, маюць пэўную занепакоенасць перад уваходжаннем у еўразону. Як вы ацэньваеце перспектыву еўра і будучае развіццё еўразоны?***

— Еўразона — гэта зона, якая зараз напалову грунтуецца на невыкананні абавязацельстваў. Калі еўра пачало нараджацца, адразу былі здзейсненыя спробы стварыць інстытуцыі, якія б займаліся агульнай фінансавай палітыкай. Насамрэч сёння існуе толькі адна інстытуцыя, якая створана для еўра, — гэта Еўрапейскі цэнтральны банк. Але не існуе свайго парламента для еўразоны. Мы таксама не маем выканаўчых структураў для еўразоны. У нас ёсць Еўрапейскі парламент, які створаны для ўсяго Еўрасаюза. У нас ёсць таксама Еўракамісія ў Брусэлі, якая таксама створана для ўсяго Еўрасаюза. Але няма асобнай інстытуцыі для зоны еўра, хоць гэта зараз вельмі неабходна.

Што да імкнення Балгарыі стаць сябрам зоны еўра, то гэтае жаданне мне падаецца пакуль што заўчасным. Пачакайце яшчэ некалькі гадоў, пакуль не будуць створаны тыя інстытуцыі для зоны еўра, пра якія я казаў.

***— Хто можа стаць агульнаеўрапейскім лідарам? Ці можа ім быць, да прыкладу, Ангела Меркель?***

— Я ўвогуле выступаю супраць таго, каб хтосьці з немцаў прэтэндаваў на ролю правадыра ў Еўропе. Не важна хто — спадарыня Меркель, спадар Штайнбрук ці хто-небудзь яшчэ.

***— Чаму?***

— З прычыны забойства немцамі шасці мільёнаў еўрапейскіх габрэяў. І хоць прайшло ўжо больш за шэсцьдзесят гадоў з тых падзеяў, але гэта цяжарыць і маё пакаленне, і будзе абцяжарваць нават тыя пакаленні, якія яшчэ не нарадзіліся.

***— Якой вы бачыце ролю Германіі ў Еўрапейскім саюзе ў найбліжэйшыя 10–15 гадоў? Будуць новыя саюзы, альянсы, пошукі новых партнёраў?***

— XX стагоддзе пакінула нам прыклады неверагодных і шмат у чым вельмі дзіўных зьмяненняў у свеце. Насельніцтва Зямлі ў XX стагоддзі павялічылася ў чатыры разы, прычым пачынаючы з 1950-х гадоў выключна па-за межамі Еўропы. XX стагоддзе пакінула нам аўтамабілі, самалёты, яно пакінула нам бомбы, якія можна скідваць з самалётаў і забіваць людзей, у тым ліку і атамныя бомбы. Гэтае стагоддзе пакінула нам велізарныя адкрыцці ў электроніцы і магчымасці спалучаць электронныя прылады ў адну сетку з дапамогаю спадарожнікаў.

Гэтае стагоддзе пакінула нам і ўспаміны пра дзве жахлівейшыя сусветныя вайны, яно пакінула нам халакост, Аўшвіц (Асвенцым). Яно пакінула нам і сканчэнне «халоднай вайны», што выклікала шмат энтузіязму, безліч захапленняў, але не ўключыла мазгі. І цяпер мы мусім ламаць галаву, як выпраўляць усе тыя недахопы і памылкі, якія былі зробленыя ў Маастрыхце. Я не выключаю, што і Германія будзе рабіць свой унёсак на выпраўленні гэтых памылак, але не хачу казаць, што гэта мусіць быць нейкая кіруючая, асноўная роля. Гэта маё прыватнае меркаванне.

***— Якія існуюць перспектывы супрацоўніцтва паміж Еўропай, канкрэтна Германіяй і Беларуссю на чале з Аляксандрам Лукашэнкам?***

— Мне не вельмі прыемна адказваць на гэтае пытанне, бо я не ўпэўнены ў мудрасці спадара Лукашэнкі. Гісторыя Беларусі — вельмі складаная гісторыя. У свае часы Беларусь як дзяржава займала нашмат большыя тэрыторыі, чым сёння. А потым на некалькі стагоддзяў Беларусь апынулася спачатку пад рускімі царамі, потым пад Сталіным, а потым пад Гарбачовым. А сёння вы хочаце паляпшаць стасункі, набліжацца да Еўропы. На самай справе, для вас самае важнае — гэта капітал, грошы. І сёння Беларусь гатовая збліжацца з любым, хто прапануе ёй капітал. Але цяперашняя Беларусь — малапрывабная. У Мінску мусяць вырашыць, як стаць больш прывабнымі, але дзеля гэтага амаль нічога не робіцца.

***— Наколькі маюць рацыю тыя, хто называе Лукашэнку апошнім дыктатарам Еўропы?***

— Я нічога не магу сказаць з гэтай нагоды. Я ніколі не быў у Беларусі, і я не знаёмы з Лукашэнкам асабіста.

7

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 23 верасня, панядзелак

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладрама «Аддам жонку ў добрыя рукі» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** «Старажытнае слова. Лёс Міхала Баброўскага». Дак. фільм.
**13.50** «Верасень 1943-га. Недзіцячы дзённік». Хранікальна-дак. фільм (Беларусь).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.20** Усё як мае быць!
**16.45** Меладрама «Час шчасця».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.55** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Прэм'ера! Меладраматычны серыял «Квіток на дваіх» (Украіна). 1-я серыя.
**23.30** Дзень спорту.
**23.40** Гістарычная любоўная драма «Мы. Верым у каханне» (Вялікабрытанія).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер.фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.20** Фільм «Конан-варвар».
**02.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.55** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**15.40** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.35** «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Хаос». Канада - Вялікабрытанія - ЗША, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**23.05** «Ваенная таямніца».
**00.55** «Прафесійны бокс».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.55** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Расія - Парагвай.
**12.20** Тэніс. Токіо. Жанчыны.
**14.30** Дарожная гісторыя «Круты паварот».
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.30** «Дабранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Мастацкі фільм.
**09.50** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 1-я серыя.
**10.35** «Дыя@блог». «Пра мову».
**11.05** «Навальнічны перавал». Экранізацыя рамана Эміліі Брантэ. 1-я і 2-я серыі.
**14.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца Івана Дмухайла.
**14.55** «Разам з ім». Тэлевізійны фільм пра рэжысёра Уладзіміра Корш-Сабліна.
**15.25** Прэм'ера. «Пра тое, што помню і люблю». Дакументальны фільм.
**15.50** «Дунечка». Мастацкі фільм.
**17.30** «Наперад у мінулае».
**17.55** «Лабірынты». Зачараваныя замкі паннаў Горват.
**18.25** «Ад зямлі, ветру і сонца». Навукова-папулярны фільм.
**18.55** «Маем рэчы». Меч.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.15** «Варатар». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Канстанцін Заслонаў». Мастацкі фільм.
**22.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.25** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 2-я серыя.
**23.15** Прэм'ера. «Пра тое, што помню і люблю». Дакументальны фільм.
**23.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца Івана Дмухайла.
**00.05** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Асаблівы выпадак».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** Тэлесерыял «Простае жыццё».
**22.35** Тэлесерыял «Прынцып Хабарава».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Рускі чарназём».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Маст.фільм «Партрэт з дажджом».
**10.50** «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Чорны крумкач».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Дак.фільм «Кліч сэрца».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Прынцэса і жабрак».
**01.15** Маст.фільм «Сёмы дзень».
**03.10** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Два на два (тэледыскусія): Глабальныя беларускія лідары; з удзелам Дзмітрыя Галко і Яніны Мельнікавай.
**08.45** Дакументальная гадзіна: «Будучыня працуе», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**10.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** Форум (ток-шоу).
**11.25** «Час гонару», серыял: 52 серыя.
**12.15** ПраСвет.
**12.40** Зона «Свабоды».
**13.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.35** Дакументальная гадзіна: «Будучыня працуе», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**15.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.25** «Схаваныя злачынствы», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**16.55** «Палітыканы», серыял: 4 серыя.
**17.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 36.
**18.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парааднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Дэвайс.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.40** Асабісты капітал.
**01.00** Аб'ектыў.
**01.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 24 верасня, аўторак

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10, 17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.10** Камедыя «Белыя Росы».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Усе грані вар'яцтва».
**13.55** Серыял «Квіток на дваіх». 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**21.00** Панарама.
**22.00** Серыял «Квіток на дваіх». 2-я серыя.
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Фільм «На мяжы».
**02.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**09.45** «Чыстая праца».
**10.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.55** СТВ уяўляе: 1/2 фіналу Міжнароднага музычнага праекта «ХОРаШОЎ».
**16.00** «Уявіце сабе».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Школа злодзеяў». Італія, 1986 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**23.05** «Жывая тэма».
**00.05** «Аўтапанарама».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Галандыя - Аргенціна.
**11.45** Тэніс. Токіо. Жанчыны.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я, закл., серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Плэй-офф.

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.30** «Дабранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.15** «Камертон». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Таццяна Ліхачова.
**08.50** «Маем рэчы». Абсерваторыя.
**09.00** «Дрэва за вакном. Мастак Яўген Ігнацьеў». Дакументальны фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 2-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.50** «Варатар». Мастацкі фільм.
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці балерыны Аляўціны Карзянковай.
**12.30** «Неразгаданыя людзі». Дак. фільм.
**12.55** «Росчырк часу». Творчасць мастака-сцэнографа Віктара Лесіна.
**13.10** «Любча. Восем дзён лета». Дак. фільм.
**13.35** «Палескі пачастунак».
**13.55** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**14.25** «Пра тое, як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм.
**14.50** «Уніз па Ясельдзе-рацэ». Дак. фільм.
**15.05** «Магія дрэва». Навукова-папул. фільм.
**15.15** «Канстанцін Заслонаў». Мастацкі фільм.
**16.30** «Віталь Цвірко. Паэзія пейзажу». Дакументальны фільм.
**17.00** «Музей Якуба Коласа». Дак. фільм.
**17.15** «Калейдаскоп».
**17.20** «Галасы з мінулага».
**17.30** «А світанні тут ціхія». Экранізацыя твора Барыса Васільева. 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Маё каханне». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 3-я серыя.
**23.20** «Неразгаданыя людзі». Дакументальны фільм пра Максіма Гарэцкага.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці балерыны Аляўціны Карзянковай.
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.15** «Галасы з мінулага».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Асаблівы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Мар'еў гай».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**17.10** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**20.40** Тэлесерыял «Простае жыццё».
**22.35** Тэлесерыял «Прынцып Хабарава».
**23.45** «Адмысловы карэспандэнт».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Маст.фільм «Сёмае неба».
**11.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.25** Серыял «Клон».
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Чорны крумкач».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Дак.фільм «У свеце каменных джунгляў».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Прынцэса і жабрак».
**01.10** Маст.фільм «Варэнікі з вішняй».
**02.30** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 12.00, 19.00, 23.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.35** Асабісты капітал.
**08.55, 14.00, 01.05** Аб'ектыў.
**09.25, 14.25** Еўропа сёння.
**09.50, 14.55** Назад у будучыню.
**10.00** «Дом», серыял: 2 серыя.
**11.30** «Мелодыя душы», дак. фільм, 1993 г.
**15.05** «Дом», серыял: 2 серыя.
**16.35** «Незалежныя», дак. фільм, Польшча.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без рэтушы: «Няпростае вяртанне», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20, 20.10** Агляд падзеяў культуры.
**19.25, 20.15** Сальда.
**19.30, 20.00** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парааднік гледача).
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог-89+», цыкл кароткаметр. фільмаў: фільм 4: «Бедная мая галава».
**21.50** Спазнай свет: «Дэкларацыя неўміручасці», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**22.20** Форум (ток-шоу).
**00.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 25 верасня, серада

### Беларусь 1

**07.15** Камедыйная меладрама «Радня».
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). Закл. серыя.
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Лірычная меладрама «Самотным даецца інтэрнат» (СССР).
**14.00** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** Адмысловы рэпартаж АТН.
**16.35** Анімацыйны фільм «Імпі-суперстар».
**18.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.05** Меладрама «Час шчасця-2».
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Гістарычная драма «Дзіўная лёгкасць» (Вялікабрытанія-ЗША).
**00.40** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). Закл. серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Трылер «Омэн».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.55** Фільм «Школа злодзеяў». Італія, 1986 г.
**15.40** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Сябры і палюбоўнікі». Францыя, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**23.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.05** «Дабро пажалiцца».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.20** Цудоўная сямёрка. Вяртанне. Кастынг.
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Тэніс. Токіо. Жанчыны.
**14.00** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.10** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.05** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. 1\4 фіналу.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабрананак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.15** «Скарбніца Віцебшчыны». Гісторыя і архітэктура Віцебскай ратушы.
**08.45** «Пад аблокамі». Дак. фільм.
**09.15** «Лаўрышава». Дак. фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 3-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог «. «Пра прыгожае».
**10.50** «.А світанні тут ціхія». Экранізацыя твора Барыса Васільева. 1-я і 2-я серыі.
**13.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі Святланы Данілюк.
**14.15** «Родная песні ваявода». Дак. фільм.
**14.50** «Пад крылом анёла». Дак. фільм.
**15.10** «Маё каханне». Мастацкі фільм.
**16.30** «Экслібрыс». Дакументальны фільм аб гісторыі кніжнага знака.
**16.40** «Тэлевёрсты». Тэатр плюс ТВ.
**17.10** «Элегія». Лёс маёнтка Іллі Рэпіна.
**17.30** «Карані». Драўляныя пабудовы Сяргея Нічыпарука.
**18.00** «Мара пра космас». Дак. фільм.
**18.30** «Маем рэчы». Гарбата.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.50** «Галасы з мінулага».
**19.00** «Вясёлыя рабяты». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Шукальнікі шчасця». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 4-я серыя.
**23.20** «Родная песні ваявода». Дакументальны фільм пра паэта Ігара Паліводу.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі Святланы Данілюк.
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.20** «Галасы з мінулага».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Асаблівы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Мар'еў гай».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** Тэлесерыял «Пуцявікі».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** Тэлесерыял «Простае жыццё».
**22.35** Тэлесерыял «Прынцып Хабарава».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Старацелі марскіх глыбінь. Знайсці патанулыя мільярды».

### Мир

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Пакліч мяне ў далеч светлую.
**11.00** «Агульны інтарэс».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Чорны крумкач».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Дак.фільм «У свеце цудаў».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Прынцэса і жабрак».
**01.15** Партрэт з даждгом.
**03.00** Серыял «Клон».

### Белсат tv

**07.00, 12.15, 19.00, 23.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.50** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.20** Спазнай свет: «Дэкларацыя неўміручасці», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.25** Форум (ток-шоу).
**13.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**14.10** Аб'ектыў.
**14.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 4 серыя.
**15.35** Спазнай свет: «Дэкларацыя неўміручасці», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**16.10** Форум (ток-шоу).
**16.55** «Ранча», серыял: 10 серыя.
**17.45** Асабісты капітал.
**18.05** Праект «Будучыня».
**18.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 3 серыя.
**22.15** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**22.50** Відзьмо-невідзьмо: выд. 36.
**00.50** Наша права (юрыдычная праграма).
**01.15** Аб'ектыў.
**01.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 26 верасня, чацвер

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**11.05** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія-Вялікабрытанія). Заключная серыя.
**13.55** Серыял «Квіток на дваіх». 3-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.30** Каробка перадач.
**17.10** Таямніцы следства.
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**21.00** Панарама.
**22.00** Серыял «Квіток на дваіх». Закл. серыя.
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Вячэрні Ургант».
**22.50** Канцэрт Мілен Фармэр.
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажалiцца».
**10.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.55** Фільм «Сябры і палюбоўнікі». Францыя, 2008 г.
**15.45** «Якія людзі!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Усё ў парадку, мама». Расія, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**23.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.05** «Аўтапанарама».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету.
**11.45** Тэніс. Токіо. Жанчыны.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Час футболу.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабрананак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Драўляны народ». Пра разьбяра Мікалая Тарасюка.
**08.40** «Крылатая радуга». Навукова-папулярны фільм.
**08.55** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле твора Якуба Коласа.
**09.20** «Сляды на асфальце». Дак. фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 4-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.50** «Вясёлыя рабяты». Мастацкі фільм.
**12.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці Дзмітрыя Арлова.
**12.50** «Неба і зямля». Дак. фільм.
**13.15** «Маем рэчы». Салярныя знакі.
**13.30** «Ён недзе тут. Успаміны пра Юрыя Марухіна».
**14.00** «Легенды Нясвіжскага замка». Дакументальны фільм.
**14.40** «Твар пад грымам». Фільм-партрэт Барыса Платонава.
**15.15** «Шукальнікі шчасця». Мастацкі фільм.
**16.35** «Гісторыя беларускай страўні». Мясныя прысмакі.
**17.00** «Непрыручаная птушка». Жыццё і творчасць паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**17.20** «Нарадзіўся ў Віцебску. Музыказнаўца Іван Салярцінскі». Дак. фільм.
**17.45** «Скарбніца Магілеўшчыны». Гісторыя мястэчка Жылічы.
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.20** «Сабачае сэрца». Экранізацыя аповесці Міхаіла Булгакава. 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Хто смяецца апошнім». Мастацкі фільм паводле п'есы Кандрата Крапівы.
**22.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.50** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 5-я серыя.
**23.40** «Неба і зямля». Дак. фільм.
**00.05** «Святло далёкай зоркі».
**00.30** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Асаблівы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Мар'еў гай».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пуцявікі-2».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** Тэлесерыял «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** Тэлесерыял «Простае жыццё».
**22.35** Тэлесерыял «Прынцып Хабарава».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Паядынак».

### Мир

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Маст.фільм «Чужыя».
**11.15** «Дыяспары».
**11.45** «Кыргызстан у асобах».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Чорны крумкач».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Злачынствa і пакаранне».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Дак.фільм «У свеце каменных джунгляў».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Прынцэса і жабрак».
**01.15** Маст.фільм «Сёмае неба».
**03.05** Серыял «Клон».

### Белсат tv

**07.00, 11.55, 19.00, 23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Праект «Будучыня».
**09.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.05** «Глыбокая вада–2», серыял: 3 серыя.
**10.55** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.30** Відзьмо-невідзьмо: выд. 36.
**13.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Праект «Будучыня».
**14.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**15.00** «Глыбокая вада–2», серыял: 3 серыя.
**15.45** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.20** Відзьмо-невідзьмо: выд. 36.
**16.45** «Ранча», серыял: 11 серыя.
**17.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Бландзінка», серыял: 8 серыя.
**22.10** «Удачны – горад дыяментаў», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**00.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.05** Аб'ектыў.
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 29 верасня, нядзеля

**Беларусь 1**

**07.40** Камедыя «Кухарка» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**13.55** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.50** Анімацыйны фільм «Тачкі» (ЗША).
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.55** Меладрама «Час шчасця» (Расія-Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прэм'ера. Гістарычная любоўная драма «МЫ. Верым у каханне» (Вялікабрытанія).
**00.45** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

**НТВ-Беларусь**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Шалапутныя нататкі».
**09.40** «Аліменты: Багатыя таксама плацяць».
**10.35** «Фазэнда».
**11.10** «Вясельны перапалох».
**12.10** Камедыя «Пяць нявест».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны коктэйль».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.10** Фільм «12».

**СТВ**

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Фільм «Сурагатная маці 2». Расія, 2007 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Вось такая музыка…». СССР, 1981 г.
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Шатобрыян». Францыя, 2010 г.
**22.45** «Прафесійны бокс».
**23.45** Фільм «Калыханкі». Германія, 2009 г.
**01.20** «Дакументальны праект».

**Беларусь 2**

**07.45** Мультфільм «Мяжа».
**08.05** Фільм-казка (СССР).
**09.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Эксцэнтрычная камедыя «Дзелавыя людзі» (СССР).
**12.25** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**13.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**15.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**17.05** Баявік «Забароненае царства» (ЗША-Кітай).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Драма «Гадзіна пік» (Расія).
**23.15** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Фінал.
**01.20** Спорт-кадр.
**02.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Плошча мастацтваў». Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.
**09.05** «Камандзір з вёскі Белае». Дакументальны фільм пра Уладзіміра Кавалёнка.
**09.35** «Край белавежскі». Дакументальны фільм Камянец.
**09.50** «Паданне пра Тураў». Дакументальны фільм.
**10.15** «Геадэзічная Дуга Струвэ». Навукова-папулярны фільм.
**10.30** «Шчасце». Дакументальны фільм пра Аляксандра Наўгародскага.
**10.55** «Анастасія Слуцкая». Мастацкі фільм.
**12.30** «Сяброўка Восень». Меладраматычны серыял. 1-я - 4-я серыі.
**15.40** Дакументаліскта. «Без права на дубль». Ігар Талькоў.
**16.30** «Культпрасвет».
**17.10** «Горад майстроў». Фільм-казка па матывах аднайменнай п'есы Тамары Габэ.
**18.35** Сусветнае кіно. «Ноч». Псіхалагічная драма.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Палёт над Айкуменай». Канцэрт Ірыны Дарафеевай.
**22.20** «Культпрасвет».
**23.00** «Памінальная малітва». Спектакль па матывах твораў Шолам-Алейхема.
**01.30** «Калейдаскоп».

**Россия**

**07.00** Фільм «Пацалунак лёсу» (2011 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Вясёлы юбілей Аркадзя Ініна.
**14.00** Весткі.
**14.15** Фільм «Гэта мой сабака» (2012 г.).
**16.10** Святочны канцэрт.
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Наша выйсце!».
**23.10** «Нядзельны вечар».

**МИР**

**05.00** Дак.фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**06.45** Маст.фільм «За двума зайцамі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.20** «Аэрасвет».
**09.35** «Прыгоды Македонскай».
**10.10** Маст.фільм «Сям'я».
**12.55** Маст.фільм «Супернявестка».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Серыял «Прыватная замова».
**20.00** «Разам».
**21.30** Серыял «Прыватная замова».
**00.05** Маст.фільм «Прысутнасць духу».
**02.00** Маст.фільм «Сям'я».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**07.45** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 4 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 4 серыя.
**08.35** Без рэтушы: «Няпростае вяртанне», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**08.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.00** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.30** Еўропа сёння.
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.15** Спазнай свет: «Дэкларацыя неўміручасці», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.10** «Бландзінка», серыял: 8 серыя.
**12.55** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Neuro Dubel».
**13.20** «Другі шанц», псіхалагічны трылер, 2010 г., Канада.
**14.55** «Рука цырульніка», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**15.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.15** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 1.
**16.50** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.30** Англійская для дзяцей.
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**18.50** «Час гонару», серыял: 53 серыя.
**19.35** Дакументальная гадзіна: «Лёс аднай сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм, Літва.
**21.00** Два на два (тэледыскусія): Сацыяльныя сеткі; з удзелам Анатоля Міхнаўца і Наталлі Гардзіенкі.
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Кафэ «Раздарожжа», крымінальная драма, Польшча.
**23.55** «Палітыканы», серыял: 5 серыя.
**00.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 37.
**01.05** Два на два (тэледыскусія): Сацыяльныя сеткі; з удзелам Анатоля Міхнаўца і Наталлі Гардзіенкі.
**01.35** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Мінск (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

**Для тых, хто прымае рашэнні!**
Новы час
www.novychas.info

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Кассир Всего ______

ЦІКАВА

# СТРАСЦІ ПА КАРАЛЮ

Алег НОВІКАЎ

**Ажыятаж вакол нараджэння нашчадка брытанскага трону ажывіў манархісцкі рух у Польшчы.**



Пару гадоў таму ўплывовы польскі часопіс «Neesweek» склаў хіт-парад найбольш экзатычных партый, якія дзейнічаюць у краіне. Кампанію «Партыі аматараў піва», «Партыі агуркоў», «Эратычнай партыі» і Партыі камуністаў, паводле версіі рэдакцыі, склала таксама партыя «Манархісцкі рух» з Лешакам Вярхоўскім на чале. Лешак прысвоіў сабе тытул рэгента і вялікага князя і патрабуе, каб яго называлі «Ваша каралеўская высокасць».

Аднак цяпер тон дыскусіі наконт манархіі змяніўся. Па-першае, як часта бывае ў часы крызісаў, у грамадстве ўзнікае ілюзія таго, што праблемы можа вырашыць выключна моцная рука. Па-другое, апошнім часам у Польшчы зноў абвастрылася традыцыйнае супрацьстаянне паміж лібераламі і кансерватарамі. Адсюль набірае папулярнасць ідэя арбітражу — інстытуцыі, якая стаяла б над міжпартыйнымі бітвамі, аб'ядноўвала нацыю. Як паказваюць апытанні ў той жа Вялікабрытаніі, менавіта наяўнасць каралевы нейкім чынам супакойвае людзей, дае ім веру ў будучыню. Ну і, нарэшце, сваю ролю адыграла сюсюканне ва ўсіх СМІ вакол нядаўна народжанага брытанскага каралеўскага немаўляці. Папаўненне ў сям'і Віндзар выклікала інтарэс да польскай манархісцкай спадчыны.

І тут нечакана высветлілася, што нават у такой рэспубліканскай краіне, як Польшча, манархісцкая думка заўсёды існавала. Славутая майская Канстытуцыя (першы ў Еўропе і другі ў свеце пасля Канстытуцыі ЗША асноўны закон, зафіксаваны пісьмова) абвяшчала не рэспубліку, а канстытуцыйную манархію. У часы напалеонаўскіх войнаў пасля стварэння Варшаўскага герцагства вялікая частка грамадства жадала бачыць на троне славутага палкаводца Панятоўскага. Пасля выбуху і падаўлення лістападавага паўстання высока каціраваліся шансы лідара палітычнай эміграцыі князя Адама Чартарыйскага, які вядзе свой род ад Гедыміна.

Палякі ледзь не атрымалі караля ўвосень 1917-га, калі немцы, якія выбілі з Польшчы рускіх, заснавалі т. зв. рэгенцкую раду. Рада, паводле статуту, часова замяшчала кіраўніка Польскага каралеўства. Аднак, як вядома, у выніку Германія вайну прайграла, а Рада перадала ўладу Пілсудскаму. Менавіта аўтарытарны стыль кіравання апошняга ў 1920–1930-я гады натхніў наступную генерацыю польскіх манархістаў. У 1930-я гады паўстаў рух за ўвядзенне ў краіне канстытуцыйнай манархіі, якую, дарэчы, разглядалі як панацэю ад набіраючага моц фашысцкага руху. Існавалі манархісты і ў сацыялістычнай Польшчы. Так, пасля абрання Караля Вайтылы на пасаду пантыфіка, некаторыя патрабавалі, каб яго ў дадатак абвясцілі каралём палякаў.

Пасля краху камуністычнага рэжыму манархісцкія ініцыятывы ў Польшчы легалізаваліся. Сёння ў краіне існуюць некалькі полюсаў манархісцкага руху. Найбольш заўважныя — «Кансерватыўна-манархісцкі клуб», арганізацыя «Манархісты Польшчы», «Агульнапольскі манархісцкі канвент», польская «Манархісцкая ліга», «Унія польскіх манархісцкіх аб'яднанняў». Паводле ацэнак палітолагаў, колькасць сяброў пералічаных арганізацый — некалькі тысяч чалавек. Як правіла, у палітычным ландшафце яны займаюць вельмі правыя пазіцыі. Некаторыя нават крытыкуюць дастаткова кансерватыўны мясцовы Касцёл за лібералізм і адкрыта сімпатызуюць артадаксальным каталіцкім сектам.

Галоўным чынам манархісцкія арганізацыі займаюцца агітацыйнай і інтэлектуальнай працай — выдаюць часопісы, вядуць сайты, намагаюцца ўплываць на курс правых партый, рэкрутуюць моладзь з клубаў рэканструктараў рыцарскага руху. Асобны від іх дзейнасці — раздача шляхецкіх тытулаў. Так, паводле статуту «Уніі польскіх манархісцкіх аб'яднанняў», кожны сябра партыі аўтаматычна станавіўся шляхціцам.

Натуральна, як і ўсе маргіналы, манархісты любяць спрачацца. Галоўны яблык разладу ў тусоўцы польскіх манархістаў — пытанне пра тое, хто павінен заняць польскі трон. Па-першае, існуе фракцыя прыхільнікаў саксонскай дынастыі. Цікава, што ў 1990-я гады Анджэй Лепер, лідар партыі «Самаабарона», лабіраваў маштабны тур галавы саксонскага дому па Польшчы. Не адмаўляюцца ад амбіцый на польскую карону і іншыя каралеўскія роды — пармскія Бурбоны, Габсбургі, Кобургі і г.д.

Сярод кандыдатаў фігуруюць і Раманавы. Як вядома, у 1815 годзе Аляксандр Першы дадаў да рэестру сваіх шматлікіх тытулаў і тытул «Кароль Польскі». Прычым польскі трон расійскі імператар заняў з санкцыі Венскага кангрэсу, дзе былі прадстаўленыя манархі ўсёй Еўропы. Падчас лістападаўскага паўстання інсургенты правялі акт дэтранізацыі — пазбавілі Мікалая II тытула караля Польшчы, аднак з дапамогай генерала Паскевіча той хутка аднавіў статус-кво. Раманавы фармальна былі польскімі каралямі аж да Лютаўскай рэвалюцыі.

Акрамя легітымістаў (тых, хто патрабуе перадаць карону прадстаўнікам аднаго з родаў, якія пабывалі на польскім троне), існуе і іншая фракцыя, якая выступае за тое, каб заснаваць польскую каралеўскую дынастыю, што называецца, з нуля. Прапануецца правесці канстынг арыстакратаў, якія хочуць заняць трон, і па нейкі крытэрах абраць пераможцу. Адзінае патрабаванне для канкурсантаў — прыналежнасць да нейкага вядомага еўрапейскага каралеўскага дому плюс каталіцкае веравызнанне.

Нарэшце, сярод манархістаў ёсць яшчэ адна забаўная група, якая выступае за тое, каб польскім каралём стаў нейкі святы. Так, палітык кансерватыўнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS) Артур Гурскі нейкі час выступаў за тое, каб каралём Польшчы абвясцілі Ісуса Хрыста. Такі крок, на думку Гурскага, можа дапамагчы ўладзе стаць больш духоўнай. Праўда, ёсць у Гурскага апаненты. Так, некаторыя актывісты той жа PiS патрабавалі, каб каралевай Польшчы стала Боская маці.

Усе гэтыя планы манархістаў так ці інакш упіраюцца ў адну праблему. Якім чынам рэспубліканская Польшча трансфармуецца ў Польскае Каралеўства? Адзіны лагічны адказ — такое рашэнне павінен прыняць Сейм. Таму, як не дзіўна, польскія манархісты вельмі часта спрабуюць пралезці ў заканадаўчыя органы ненавіснай ім рэспублікі. Далей за ўсіх пайшоў ужо згаданы вышэй Лешак Вярхоўскі. У 1995 годзе ён вырашыў балатавацца ў прэзідэнты, каб у выніку перамогі пачаць манархічныя рэформы. Аднак патрэбнай колькасці подпісаў так і не сабраў. Магчыма, з улікам цяперашняй хвалі інтарэсу да манархіі, ён або іншы палітык-манархіст паспрабуе паўтарыць той крок.

Напрыканцы варта ўзгадаць пазіцыю польскіх манархістаў па Беларусі і Украіне, якія калісьці ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Не так даўно адна з манархісцкіх арганізацый Польшчы падпісала дамову з прэтэндэнтам на ўкраінскі трон нейкім Алелькам Другім. Адпаведна ёй, польская і ўкраінская манархіі, калі яны, натуральна, паўстануць, будуць прызнаваць цяперашнюю дзяржаўную мяжу паміж Польшчай і Украінай. Што тычыцца Беларусі, то ў нас прэтэндэнтаў на трон, здаецца, пакуль няма. Таму і дамаўляцца няма з кім. Праўда, на старонках манархісцкай прэсы Польшчы вельмі крытыкуюць цяперашні польскі МЗС за наезды на Лукашэнку. Няўжо польскія манархісты пабачылі ў ім патэнцыйнага кандыдата на беларускую карону?

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У скандале з ксяндзом Лазарам каталіцкі касцёл павінен быў заняць цвёрдую пазіцыю і заявіць пра сваё непрыманне і нязгоду з такімі дзеяннямі ўлады. Але касцёл і яго кіраўнік арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч маўчаць. Гэта азначае, што іерархі вырашылі гуляць па прапанаваных уладай правілах і, хутчэй за ўсё, вядуцца перамовы аб далейшай працы касцёла ў Беларусі ў новых умовах і па новых правілах, прадыктаваных уладамі.

**«Газета.ру» (Расія)**

Калі саступкі Масквы ў нафтавай сферы апынуліся дастатковымі для таго, каб абвясціць чарговую перамогу А. Лукашэнкі над Крамлём, то навошта Лукашэнка пачынае літаральна прасіць вярнуцца «Уралкалій», пачынае перадаваць у Крэмль праз А. Мілера, Г. Грэфа і І. Сечына прывітанні і пажаданні? Пры гэтым Расія маўчыць. Навошта ў беларускіх СМІ працягваецца антырасійская інфармацыйная вайна? Ізноў гучыць песня пра ўладу алігархаў, кепскае становішча расіян... чуюцца крыкі, што «Пуцін аддаў Расію на водкуп каўказскім бандытам і злодзеям»? Мабыць, А. Лукашэнка разумее, што крызіс далёка не скончаны. Усё ідзе сваёй чарадой. Адсюль і непакой праўрадавых экспертаў, што калійная вайна можа разбурыць рэшткі расійска-беларускіх саюзных адносін. Такім чынам, чым скончыцца гэты восеньскі расійска-беларускі палітычны марафон, пакуль не ясна. Сітуацыя склалася неадназначная.

**«Политобзор» ( Расія )**

Сам Астап Бэндэр мог бы пазайздросціць вынаходлівасці беларускіх уладаў. Калі вялікі камбінатар, герой раманаў Ільфа і Пятрова, ведаў 400 параўнальна сумленных спосабаў адабрання грошай у насельніцтва, то 401-ы прыдумаў асабіста Лукашэнка, абураны тым, што беларусы пакідаюць у замежных паездках да 3 мільярдаў долараў у год. Вядома, у XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы перашкода для замежных паездак стане хутчэй «жалезнай фіранкай», чым сапраўднай жалезнай заслонай — такой жа пародыяй, як і Шнобелеўскія прэмія. Тым больш, што за 19 гадоў кіравання Лукашэнкі грамадзяне прывыклі знаходзіць проціяддзе ў любых абставінах. Ды і мяжа Беларусі на самай справе зусім не на замку, ёсць магчымасць выехаць у ЕС і праз Расію. Але сама сітуацыя вакол магчымага ўвядзення выязной пошліны паказвае, што Еўрасаюз відавочна прайграе аўтарытарнаму кіраўніку сваю ідэю безбар'ерных зносін беларусаў з еўрапейцамі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Адзіная эканамічная прастора вызначыла лёс Беларусі — няма суверэнітэту і сацыяльнай унікальнасці. Лукашэнка стаў мясцовым феадалам, які ў рамках расійска-беларускіх адносін займаецца звычайным местачковым шантажам, размяркоўваючы грашовыя патокі. А такія пасажы, як «Без Беларусі Расія не выжыве», «Вы — ніхто без Беларусі», «Беларусь — усё для Расіі», з'яўляюцца лагічнымі і заканамернымі формамі палітычнага шантажу, якія нарадзіліся ўнутры «Саюзнай дзяржавы», у святле дзвюх першапачаткова несумяшчальных формаў кіравання. На самай справе, гэта нават не шантаж, а крыўда ад таго, што ў Беларусь уліваецца менш грошай, чым у сяброў Пуціна, якія сталі алігархамі.

**«Главком» (Украіна )**

Паводле законаў эканомікі, каб утрымаць фінансавую раўнавагу, заробкі павінны зніжацца, а пазыковыя рэсурсы даражэць. Рэалізацыі гэтага перашкаджае палітыка ўлады. Аляксандр Лукашэнка патрабуе, каб заробкі павялічваліся, а крэдыты таннелі. Інакш прыйдзецца прызнацца ў тым, што эканамічная палітыка была няправільнай і пакінуць пасаду кіраўніка дзяржавы, якая стала яму роднай за 19 гадоў. Эксперты кажуць пра тое, што ўлада сама загнала сябе ў кут, і любое яе рашэнне стане крыніцай эканамічных праблем. Захаванне працэнтных ставак на высокім узроўні будзе весці да зніжэння дзелавой актыўнасці. Такі сцэнар наўрад ці можа быць прымальны для ўладаў. У той жа час іх зніжэнне немінуча прывядзе да паслаблення нацыянальнай валюты і чарговай дэвальвацыі.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. РАСКОЛ У ПАРТЫІ РЭГІЁНАЎ

12 верасня Вышэйшы суд Украіны абавязаў ЦВК пазбавіць дэпутацкага мандата Ігара Маркава — прадстаўніка Партыі рэгіёнаў і аднаго з самых прарасійскіх палітыкаў у Вярхоўнай Радзе. Прычына — факты фальсіфікацыі галасавання ў 133-й акрузе ў Адэсе, адкуль абіраўся Маркаў. У прыватнасці, на выбарчых участках выкарыстоўваліся асадкі са знікаючым чарнілам. Сам Маркаў лічыць, што абвінавачванні ў фальсіфікацыі на выбарах звязаныя з тым, што ён выступае супраць еўраінтэграцыі Украіны і не збіраецца галасаваць за законапраекты, якія спрыяюць падпісанню Дамовы аб асацыяцыі з Еўрапейскім саюзам. Адразу пасля судовага рашэння Маркаў заявіў, што канчаткова перайшоў у апазіцыю да існуючага рэжыму. Самае смешнае, што Маркаў крытыкуе рэжым за парушэнне дэмакратычных нормаў. У сваёй барацьбе супраць Януковіча ён нават гатовы супрацоўнічаць з аранжавымі. Прынамсі, ён выказаў ім падзяку за інфармацыйную падтрымку. Таксама варта адзначыць, што Маркава публічна падтрымала група дэпутатаў з Партыі рэгіёнаў, якія таксама супраць дамовы пра асацыяцыю Украіны і ЕС. Магчыма, калі справа дойдзе да галасавання па канкрэтных законах наконт асацыяцыі, усё можа скончыцца расколам партыі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ЯШЧЭ АДЗІН КАНДЫДАТ У МЫТНЫ САЮЗ?

Нямецкія еўраскептыкі з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) апублікавалі тэзісы пра сваё бачанне міжнароднай палітыкі ФРГ. Тэзісы дастаткова цікавыя. Так, AfD жадае захавання існуючай заходняй сістэмы бяспекі, і больш за тое, разглядае ЗША як вядучага гаранта стабільнасці на планеце. Значна больш радыкальныя погляды ў еўраскептыкаў на будучыню ЕС. Партыя выступае за выключэнне з Еўрапейскага саюза Грэцыі, Румыніі і Балгарыі, за ліквідацыю цэнтральнага апарату ЕС і трансфармацыю самога Еўрасаюза ў зону вольнага гандлю. Не менш радыкальны падыход прапануецца ў дачыненні да Расіі. Расія разглядаецца еўраскептыкамі як галоўны рэсурс сыравіны, на які павінна абапірацца германская эканоміка. Аўтары праграмы заклікаюць узгадаць часы Бісмарка, калі краіны моцна сябравалі. Такая ідэалізацыя Расіі выклікала шок сярод правых, якія падтрымліваюць AfD. Між тым, прэса называе ідэю пра вечнае нямецка-рускае сяброўства «рамантызацыяй» і іранізуе наконт таго, што AfD збіраецца ўцягнуць Германію ў Мытны саюз. Застаецца сказаць, што за тыдзень да выбараў рэйтынг AfD узняўся да 4 працэнтаў. З улікам вялікай колькасці тых немцаў, якія яшчэ не вызначыліся з электаральнымі сімпатыямі, шансы прайсці ў бундэстаг у AfD застаюцца.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. НЕПТУН ПАКАРАЎ КРАІНУ

На расійскіх інтэрнэт-форумах абсалютна ўсур'ёз абмяркоўваюць версію пра тое, што цяперашняя маштабная паводка на Далёкім Усходзе — гэта кара Нептуна. Нептун, быццам, не прабачыў учынкаў Расійскай Праваслаўнай Царквы (РПЦ). Нагадаем, што ўлетку ў Расіі з падачы РПЦ фактычна забаранілі свята Нептуна. Руская праваслаўная царква настаяла на выключэнні з праграмы святкавання Дня расійскага флоту «паганскіх персанажаў», у тым ліку і бога мора. «Многія людзі, якія лічаць, што паганскія святы — гэта таксама нашы традыцыі, не ведаюць сапраўднага сэнсу гэтых святаў. Аднак, калі мы ўспомнім, як святкавалі паганскія дні ў мінулым, то ўбачым, што ў бяскрыўдных гульнях ля вогнішча хаваецца сэнс зусім іншага значэння. Усе гэтыя бяздзейныя гулянні заканчваліся ўсеагульным блудам. Я лічу, што паганскія традыцыі павінны застацца ў мінулым», — сказаў адзін з ініцыятараў рэпрэсій супраць Нептуна. І вось цяпер, быццам, Нептун вырашыў адпомсціць за ягоны пераслед. Праўда, аматары жартаў кажуць, што магло быць і горш. «Галоўнае, Бахуса не ўгнявіць», — пішуць яны.

**Паводле расійскай прэсы**



### ЗША. РАСІСТЫ АТАКУЮЦЬ «МІС АМЕРЫКУ»

Не паспела Ніна Давулуры, амерыканка індыйскага паходжання, 15 верасня атрымаць карону «Міс Амерыкі», як расісты пачалі кампанію супраць яе. На інтэрнэт-форумах і ў твітары з'явіліся каментары расісцкага характару. Яе называюць «Міс Аль-Каіда» і «Міс Індыя». Найбольш махровыя ксенафобы ўвогуле лічаць, што неабходна змяніць правілы конкурсу Міс Амерыка і дапускаць на яго выключна белых амерыканак. Натуральна, знайшліся такія, хто лічыць, што журы конкурсу галасавала па палітычных кан'юнктурных матывах. Быццам, засеўшыя там лібералы валілі ўсіх кандыдатак з сярэдняга Захаду — бастыёну амерыканскага кансерватызму. Перш за ўсё, гаворка пра Тэрэзу Вайл — першую прыгажуню штату Канзас. Яна адпавядае ўсім крытэрам сапраўднага кансерватара — ходзіць у пратэстанцкую царкву, з'яўляецца сябрам мілітарнай групоўкі аховы правапарадку і ў дадатак — натуральная бландзінка. У выніку галасавання сябраў журы Тэрэза апынулася толькі на 10-м месцы, што выклікала гнеў усіх амерыканскіх правых.

**Паводле амерыканскай прэсы**

▸ СУВЕРЭНІТЭТ

# ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЗАСТАЛОСЯ ТРОШКІ

*Алег НОВІКАЎ*

**11 верасня Каталонія адсвяткавала галоўнае нацыянальнае свята La Diada — Нацыянальны дзень Каталоніі. Наступны раз каталонцы спадзяюцца адзначаць 11 верасня ўжо ў сваёй незалежнай дзяржаве.**




Гэта традыцыйнае свята, звязанае з заканчэннем у гэты дзень у 1714 годзе аблогі Барселоны — апошняй бітвы вайны за іспанскую спадчыну, якая абярнулася для каталонцаў стратай аўтаноміі. Але ў гэтым годзе свята мела асаблівы падтэкст.

Фактычна, 11 верасня падводзіліся вынікі апошняй фазы барацьбы каталонцаў за атрыманне суверэнітэту. Год таму, 11 верасня 2012-га, па вуліцах Барселоны, нечакана нават для мясцовага нацыяналістычнага палітыкуму, мільён чалавек патрабавалі ад Мадрыда надання краю незалежнасці. Шэсце было настолькі грандыёзным, што яму ўжо прысвяцілі шэраг кніг, фотаальбомаў, не гаворачы пра артыкулы.

Пабачыўшы такую падтрымку вуліцы, незалежнікі вырашылі — іх час надышоў. Прычым у авангардзе працэсу апынулася яшчэ ўчора дастаткова памяркоўная кансерватыўная партыя «Канвергенцыя і саюз» (CiU). Яе лідар Артур Мас адкрыта заклікаў да правядзення рэферэндуму аб суверэнітэце краю. Крытыкі сцвярджаюць, што, з улікам кепскай эканамічнай сітуацыі, гэта быў вельмі прагматычны і кан'юнктурны ўчынак. Цяпер усе эканамічныя праблемы рэгіёна Артур Мас спісвае на дзейнасць цэнтральнага ўраду Рахоя. Паводле апошніх апытанняў, 54 працэнта каталонцаў сапраўды лічаць, што ў іх эканамічных праблемах вінаваты выключна цэнтр.

Хаця на мінулагодніх лістападаўскіх пазатэрміновых выбарах у рэгіянальны парламент CiU не атрымала большасці, незалежніцкія партыі ў заканадаўчым органе ўсё роўна пераважаюць. Яны ж і прагаласавалі за правядзенне ў наступным годзе рэферэндуму пра незалежнасць. Цяпер край чакае дня, які вызначыць далейшы лёс каталонскай нацыі.

Трэба прызнаць, што энтузіязм наконт хуткага атрымання незалежнасці з часам трошкі зменшыўся. Увесну ўвогуле пайшлі чуткі пра тое, што Артур Мас і іспанскі прэм'ер Марыяна Рахой збіраюцца заключыць сепаратную дамову па формуле: цэнтр дае Каталоніі больш субсідый і падатковай аўтаноміі, а Каталонія, у сваю чаргу, замарожвае праект правядзення плебісцыту. Кантакты па ліні Рахой—Мас, сапраўды, апошнім часам больш інтэнсіўныя, аднак пакуль лідар CiU ад думкі пра плебісцыт не адмаўляецца.

Пасля ў СМІ шмат спекулявалі наконт таго, што партыя «Левыя рэспубліканцы» (ERC), якая падтрымлівае Маса без уваходу ў склад яго кабінета, могуць узняць пытанне пра вотум недаверу генералітэту (так традыцыйна называюць каталонскі ўрад). Такі ўчынак чакаўся ад левых з-за шэрагу антысацыяльных рэформаў, прапанаваных міністрамі Артура Маса. Аднак у выніку пакт ERC — CiU захаваўся.

Калі глядзець на вынікі сацыялагічных замераў, то статыстыка за апошні год для незалежнікаў не вельмі кепская. Калі б апытанне ў краі праводзілася заўтра, у падтрымку суверэнітэту прагаласавала б 52 працэнты рэспандэнтаў. Супраць — 24 працэнты, а астатнія каталонцы яшчэ не вызначыліся або ўвогуле не збіраюцца ісці на пункты для галасавання.

Праўда, перавага нязначная. Пытанне, ці захаваецца яна да дня рэферэндуму? Тут дарэчы ўзгадаць, што пакуль у мінулым годзе не пачаўся нацыяналістычны ўздым, колькасць аматараў незалежнасці не выходзіла за мяжу 35 працэнтаў. Выключна крызіс, які спрыяў ідэям здольнасці каталонцаў жыць самастойна, змяніў масавую думку.

Хаця дакладная дата ўсенароднага апытання пра незалежнасць пакуль не вядомая, лічыцца, што яе будуць прызначаць з улікам магчымых вынікаў аналагічнага рэферэндуму ў Шатландыі. Ужо вядома, што шатландцы будуць вырашаць: застацца ім падданымі Каралевы Вялікабрытаніі ці быць грамадзянамі незалежнай Шатландыі, у 2014-м. Відавочна, што вынікі галасавання паўплываюць на працэс у Каталоніі. Аднак пакуль большасць шатландцаў супраць незалежнасці, і таму, магчыма, каталонцаў пагоняць галасаваць увесну або ў верасні.

Праўда, у гэтым графіку могуць быць збоі. Папулярнасць партыі Маса з-за крызісу ўсё роўна стабільна падае. За год яна скарацілася з 35 да 20 працэнтаў. Найбольш папулярнай партыяй з'яўляюцца «Левыя рэспубліканцы», якіх гатовыя падтрымаць 22 працэнты выбаршчыкаў. Такія тэндэнцыі ствараюць напружанасць паміж партнёрамі. Атрымліваецца, што CiU нясе адказнасць, а стрыжэ купоны партыя, якая крытыкуе ўрад. Мадрыдская правая прэса лічыць, што ў перспектыве канфлікт непазбежны. Пытанне — калі?

Ну а пакуль іспанскія правыя займаюцца тым, што шантажуюць каталонцаў. Па-першае, яны адмаўляюць ім у праве праводзіць рэферэндум і гатовыя аспрэчыць незалежніцкую ініцыятыву ў канстытуцыйным судзе. Хапае і больш прымітыўных страшылак. Так, на днях адзін з іспанскіх чыноўнікаў заявіў, што ў выніку абвяшчэння незалежнасці Каталонія будзе аўтаматычна выключана са складу Еўрасаюза.

Паводле еўрапейскіх законаў, гэта значыць увядзенне для каталонцаў шэнгенскіх віз і мытных тарыфаў. Такі варыянт, безумоўна, азначае калапс усёй рэгіянальнай эканомікі, завязанай на іспанскі рынак. У сваю чаргу, Барселона абяцае суайчыннікам, што не дапусціць выхаду краю з валютнай і мытнай прасторы ЕС у выпадку, калі Каталонія атрымае суверэнітэт. Пужаюць іспанскамоўных каталонцаў (іх каля паўмільёна) тым, што то яны ў незалежнай Каталоніі, дзе каталонская мова, натуральна, стане дзяржаўнай, ператворацца ў людзей другога гатунку.

Увогуле, падводзячы вынікі апошняга года для Каталоніі, усе прызнаюць, што вяртанне да сітуацыі, якая была ў Каталоніі напярэдадні 11 верасня 2012 года, ужо немагчымае. Так ці інакш, дыскусія наконт права каталонцаў на самавызначэнне зайшла занадта далёка. Адзінае, на што можа спадзявацца Мадрыд, калі сапраўды хоча захаваць Каталонію ў складзе Іспаніі, як мага хутчэй даць зялёнае святло дэбатам пра федэралізацыю. Аднак іспанская правая да гэтага адназначна не гатовая. У тым ліку таму, што каталонцы-федэралісты ўсё роўна патрабуюць, каб сябры федэрацыі мелі канстытуцыйнае права на самавызначэнне.

Аднак пакуль да рэферэндуму далёка, як гаворыцца, «гуляюць усе». У гэтым годзе да святкавання La Diada далучыўся нават каталонскі філіял «Народнай партыі» Марыяна Рахоя. Яе актыў правёў напярэдадні 11 верасня альтэрнатыўнае нацыяналістычнаму шэсце пад назвай «Дзень Каталоніі для ўсіх». А незалежнікі арганізавалі вялізарны 1,5-мільённы жывы ланцуг на 400 кіламетраў — ад паўднёвай да паўночнай мяжы каталонскай пакуль яшчэ аўтаноміі.

ІДЭАЛОГІЯ

# НАШТО НАЗАРБАЕВУ ШАКАЙ?

**11 верасня ў сталіцы Казахстана адбылася кінапрэм'ера. Гледачы пабачылі стужку «Мустафа Шакай». Карціна стала сапраўднай бомбай. Для гэтага ёсць як мінімум дзве прычыны.**

Па-першае, стужка прысвечаная Мустафе Шакаю (Чакаю) — вядомаму казахскаму палітыку, які ў часы Другой сусветнай вайны супрацоўнічаў з Гітлерам. Па-другое, фільм быў зроблены на дзяржаўныя грошы, а сам Мустафа (вядома, не без патрабавання замоўца карціны) паказаны на экране ў дастаткова пазітыўным ракурсе. Дарэчы, гэта ўжо не першая стужка, прысвечаная Мустафе. Раней пабачылі свет карціна «Шляхі Мустафа Чакая» і некалькі дакументальных карцін пра яго лёс.

Аднак спачатку пра фільм. У аснове сюжэта — ланцуг успамінаў Марыны Горынай, жонкі галоўнага героя, якая, дарэчы, збегла да Мустафы ад свайго мужа — расійскага арыстакрата і пракурора Ташкента.

На той час Шакай, якому было ўсяго 26 гадоў, знаходзіўся ў зеніце славы, паколькі ўзначальваў сакратарыят фракцыі мусульман Дзяржаўнай Думы Расійскай Імперыі. Пасля ў яго біяграфіі пачалася чорная паласа. Хаця пасля рэвалюцыі Шакай засвяціўся амаль ва ўсіх антыбальшавіцкіх выступах у Цэнтральнай Азіі, ніводны з іх не закончыўся поспехам. У выніку Мустафа з дапамогай асабістага сябры Аляксандра Керанскага накіраваўся ў эміграцыю ў Парыж, дзе яму з жонкай у матэрыяльным плане, відавочна, было не салодка.

Аднак у 1941 годзе эмігрант зноў стаў запатрабаваны ў вялікіх геапалітычных гульнях. Шакай пагадзіўся стаць адказным за фармаванне прагерманскіх вайсковай адзінкі ў складзе Вермахту, якая мела быць створана на базе савецкіх ваеннапалонных з цюркскіх рэгіёнаў СССР. Новае фармаванне называлася Туркестанцкі легіён. За падтрымку нацысты абяцалі Шакаю стварэнне Туркестанскай дзяржавы пад пратэктаратам Германіі, якая павінна была ўключаць, акрамя Сярэдняй Азіі і Казахстана, яшчэ і Башкірыю, Паволжа, Азербайджан, Паўночны Каўказ і нават кітайскі Сіньцзян.

Падчас працы па стварэнні Туркестанскага легіёну Шакай захварэў і ў снежні 1941-га памёр. Але яго смерць не паўплывала на планы гітлераўцаў. Туркестанцкі легіён быў сфармаваны, хаця і выкарыстоўваўся галоўным чынам як тылавая частка. Нягледзячы на тое, што Шакай памёр да таго, як корпус быў канчаткова сфармаваны, у савецкі час за ім замацавалася мянушка «Казахскі Уласаў».

Рэвізія поглядаў на дзейнасць Шакая пачалася толькі ў незалежным Казахстане. Нацыяналістамі была прапанаваная наступная трактоўка супрацы Шакая з фашыстамі: «Шакай здолеў выратаваць з фашысцкіх канцлагераў дзясяткі тысяч ваеннапалонных, якіх, з улікам таго, што СССР не падпісаў Жэнеўскую канвенцыю аб правах палонных, чакала смерць. Калі ў спісе Шындлера, па розных звестках, было ад 1100 да 1300 выратаваных чалавек, то на рахунку Шакая — 180 тысяч! Амаль усе яны засталіся за мяжой. А калі б яны вярнуліся на радзіму, то іх адразу б расстралялі».

Агучваецца і версія пра тое, што Мустафу атруцілі гестапаўцы. Афіцыйны дыягназ «заражэнне крыві на фоне развіцця эпідэміі сыпнога тыфу, якім ён мог заразіцца пры наведванні канцлагераў, дзе ён сустракаўся з палоннымі». Але такія ж сімптомы, на думку некаторых медыкаў, маглі быць і пры атручванні. Да таго ж у сваіх успамінах жонка ўзгадвае, што Мустафа ўжо перахварэў на тыф у Туркестане, і ў яго павінен быў захавацца імунітэт.

Нашто фашыстам было забіваць Мустафу? Аказвацца, ён не праяўляў патрэбнай лаяльнасці на адрас гаспадароў. Калі верыць некаторым гісторыкам, палітык патрабаваў ад немцаў, каб Туркестанскі легіён змагаўся толькі на этапе падыходу Вермахту да межаў Туркестана. Пры гэтым Мустафа сыходзіў з прынцыпу нацыянальна-вызвольнага руху, паводле якога любы рух з'яўляецца нацыянальна-вызваленчым толькі тады, калі ён падтрыманы народам. Некаторыя ў атручванні Шакая падазраюць яго паплечніка, узбека Валі Каюма, які пасля смерці Мустафы і ўзначаліў той самы Туркестанскі легіён.

Спробы рэабілітацыі Шакая з самага пачатку не падабаліся рускамоўнай грамадзе Казахстану. Нехта Віталь Хлюпін разважае: «Ён (Мустафа Шакай) быў мабілізаваны, выязджаў па заданні германскага камандавання ў лагеры ваеннапалонных, дзе складаў спісы патэнцыйных здраднікаў. Больш за тое — распрацаваў аналітычнае абгрунтаванне — праект фармавання вызваленчай арміі. З адным толькі нюансам — «выкарыстоўванне» Туркестанскай часткі Вермахта на фронце павінна мець месца толькі пры набліжэнні да межаў Туркестана! І што тут яшчэ і каму даказваць? Калі гэта не супрацоўніцтва, то што? Якімі яшчэ словамі, юрыдычнымі тэрмінамі можна выказаць дадзеныя факты?»

У мінулым годзе слухалася справа супраць адной з газет Усць-Каменагорску, якая назвала Шакая «памагатым фашыстаў». У выніку рэдакцыя справу прайграла. Суддзя аргументаваў канчатковы вердыкт спасылкай на даведку з рэспубліканскай Генпракуратуры. Гэтай установай справа аб супрацоўніцтве Шакая з фашыстамі не ўзбуджалася. Фармальна, калабарантам Мустафа не быў. У выніку журналістаў засудзілі на 700 долараў.




Апошнім часам афіцыйная Астана шмат працуе над стварэннем нацыянальнай гістарыяграфіі, галоўная мэта якой — цэльнасць гісторыі Казахстану, адмова ад полюсных ацэнак той ці іншай падзеі або асобы. Тое ж тычыцца і постаці Шакая. У чэрвені на зборах выкладчыкаў гісторыі казахскі дзяржсакратар Марат Тажын патрабаваў адмовіцца ад савецкіх трактовак дзейнасці і спадчыны Мустафы.

Актыўна ідзе і партбудаўніцтва нацыяналістычнай арганізацыі «Улы дала», якую патрануе дзяржава. Апошнім часам чыноўнікі заняліся структураваннем новага аб'яднання. На думку некаторых экспертаў, фактычна, мы маем справу з грамадскай арганізацыяй, якая стане выкарыстоўваць партыйныя механізмы кіравання і сваёй структурай таксама будзе нагадваць палітычную партыю. «Улы дала» аб'ядноўвае частку інтэлігенцыі, якая мае індульгенцыю на тое, каб у дазволеных рамках абараняць мову і культурныя традыцыі казахаў.

Палітолагі лічаць, што інтарэс да нацыяналістычнай тэматыкі з'явіўся ў Назарбаева невыпадкова. Не толькі сярод простых людзей, аднак нават сярод чыноўнікаў папулярная думка, што Мытны саюз пагражае суверэнітэту Казахстану. Таксама запатрабаваная ў грамадстве антыкітайская рыторыка. Не дарма адной з самай гучных акцый праўладных нацыяналістаў стала кампанія супраць кітайскага журналіста Хунь Бао, які на адным з сайтаў КНР распаўсюдзіў інфармацыю аб тым, што казахі настолькі гасцінныя, што гатовыя аддаць госцю на ноч уласную дачку, а права першай шлюбнай ночы з нявестай належыць бацьку жаніха. У выніку шэрагу пікетаў і петыцый скандальны артыкул з сайта прыбралі.

Брэнд Мустафы Шакая, сапраўды, патрэбны казахскай уладзе для кантролю над нацыяналістычным дыскурсам. Іншая справа — наколькі погляды самога Шакая пасуюць учынкам Назарбаева. Нягледзячы на кантакты з нацыстамі ў абсалютнай большасці сваіх публіцыстычных прац Шакай выступаў за дэмакратычны выбар для народаў Сярэдняй Азіі, што, відавочна, супярэчыць цяперашнім аўтарытарным казахскім рэаліям.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАРЦІН КОРАЛ



Дэпутат брэменскага гарсавета ад партыі сацыял-дэмакратаў стаў нефармальным лідарам нямецкіх цыганафобаў. Здарылася гэта пасля таго, як яго выключылі з партыі за прамову наконт праблемы цыган. У прамове, якую, дарэчы, палітык трымаў аж у лютым, ён даў вельмі жорсткую ацэнку гарадской цыганскай камуне. Па яго словах, брэменскія цыгане па інтэлектуальнаму развіццю засталіся ў сярэднявеччы. Пра гэта, быццам, сведчыць практыка, калі жанчыны і мужчыны ў цыганскіх семя'х па чарзе выбіваюць адзін аднаму зубы, каб пасля ўставіць сабе залатыя пратэзы. Такі спіч выклікаў каскад пратэстаў грамадскасці. Магчыма, пра гэта неяк і забыліся, аднак Марцін адначасова таксама пасварыўся з феміністкамі, назваўшы вар'яцтвам ідэю жаночых квот у кіраўніцтве партыі эсдэкаў. Па яго словах, каб кіраваць партыяй, жанчынам увесь час будуць патрэбныя шпаргалкі. Пасля гэтага Марціна спачатку выключылі з фракцыі, а цяпер запатрабавалі пакласці на стол партбілет. Увогуле, гэта не першы ксенафобскі скандал з удзелам эсдэкаў. Раней з партыі папрасілі былога берлінскага міністра Сарацына, які праехаўся па берлінскіх турках, заявіўшы, што турэцкія жанчыны — канвеер для нараджэння дзяцей.

### ФРАНСУА ФІЛОН



Былы прэм'ер Францыі, адзін з лідараў вядучай правацэнтрысцкай партыі «Саюз за народны рух» (UMP) прапанаваў аднапартыйцам адмовіцца ад тактыкі «не-не», якой партыя кіравалася раней. Сэнс яе палягае ў тым, што кансерватары ніколі не галасуюць за сацыялістаў і нацыяналістаў у другім туры выбараў. На думку Філона, патрэбна новая больш гнуткая стратэгія. Калі партыйцы прыслухоўцца да парадаў Філона, Францыі пагражае сапраўдная палітычная рэвалюцыя. Гэта перш за ўсё тычыцца тых акругаў, дзе ў другі тур выходзяць кандыдаты ад левых і ўльтраправых з «Нацыянальнага фронту». Традыцыйна «Саюз за народны рух» у такіх выпадках раіць дзейнічаць па прынцыпу «не-не», а дакладней, заклікаў байкатаваць выбары. Калі забароны галасаваць за ўльтраправых не будзе, адчыніцца шлях да альянсу паміж дзвюма партыямі. Рэакцыі палітыкуму на прапанову Філона полюсныя. Левыя СМІ кажуць, што Філон не жадае бачыць праварадыкальную прыроду «Нацыянальнага фронту», якая пагражае дэмакратычным і рэспубліканскім інстытутам. Правыя кажуць, што такая тактыка знішчыць UMP. Харызматычная Марын Ле Пэн марыць зрабіць свой «Нацыянальны фронт» галоўнай правай партыяй, і будзе заўсёды весці гульню на маргіналізацыю саюзнікаў-кансерватараў. Між тым, 70 працэнтаў сяброў UMP гатовыя галасаваць у другіх турах за кандыдатаў «Нацыянальнага фронту». Дадатковы важны аспект гэтай дыскусіі звязаны з тым, што ў наступным годзе ў Францыі адбудуцца муніцыпальныя выбары.

### АЛЕКС САЛМАНД



Кіраўнік шатландскай аўтаноміі, лідар «Партыі шатландскіх нацыяналістаў» (SNP) абвясціў поўную мабілізацыю ўсіх прыхільнікаў шатландскай незалежнасці. Праз год, 18 верасня 2014 года, адбудзецца ініцыяваны ім рэферэндум, на які будзе вынесена пытанне незалежнасці краю. Вынікі апошніх апытанняў сведчаць, што Салманда гатовая падтрымаць меншасць суайчыннікаў, прыкладна 40 працэнтаў. Невысокі ўзровень нацыянальнай свядомасці тлумачыцца страхам згубіць датацыі, якія Шатландыя атрымлівае з Лондану. Пакуль аналітыкі скептычна ставяцца да намераў Салманда нешта змяніць за адзін год. Нават на піку папулярнасці яго ідэй толькі 47 працэнтаў тубыльцаў марылі пра незалежную Шатландыю. Між тым, правал рэферэндуму ў Шатландыі можа вельмі дапамагчы каталонскім незалежнікам. Справа ў тым, што на мінулым тыдні Мадрыд упершыню вуснамі прэм'ера Марыяна Рахоя даў зразумець, што дапускае правядзенне рэферэндуму аб незалежнасці Каталоніі, калі ўсё будзе ў рамках закону. Некаторыя мяркуюць, што няўдача Салманда зможа супакоіць Рахоя і справакаваць Мадрыд на тое, каб дазволіць рэферэндум аб незалежнасці Каталоніі. Нават сам факт таго, што цэнтр гатовы прызнаваць самастойны выбар малых народаў Іспаніі, будзе прававым прэцэдэнтам і прарывам у палітычнай культуры іспанскай эліты.

ALBA ROCIKA

# СЛАВУТЫ МАЭСТРА ПУЗЫНЯ

Віталь СЯМАШКА

**Я ўпершыню ўбачыў яго ў чэрвені 1989 года ў Вільні на адкрыцці першага з'езду БНФ. Дэлегаты, што з'ехаліся з усіх куткоў, напружана перашэптваліся. Ва ўсіх было чаканне Вызвалення ды Адраджэння, надыходу Новага Часу — і летнім громам выбухнула велічэзная па памерах сурма Пузыні. Спачатку на віленскай вуліцы, потым у палацы і, урэшце, на сцэне.**



Як узгадваў сам маэстра, людзі мо ўпершыню слухалі не бальшавіцкія трубы, а сапраўдны покліч продкаў. Прыціхлая зала ўзарвалася апладысментамі. Ці адчуваў ён тады гістарычнасць моманту? Сказаў толькі: «У самога ўнутры скакалі дрыжыкі. І — адчуваў сябе Беларусам».

Год таму, 18 верасня, ранкам пайшоў з жыцця славуты беларускі музыка, майстар-рэстаўратар старажытных народных інструментаў, вядомы далёка за межамі краіны, — Уладзімір Якаўлевіч Пузыня. Яму было 72 гады.

Нарадзіўся маэстра ў вёсцы Суцін на Любаншчыне. Паходзіў са шляхецкага роду. Скончыў школу мастацтваў у Магілёве. У 1970-я гады стаў ствараць ды аднаўляць старажытныя інструменты. У 1980-я вучыў граць на іх маладых музыкаў, якія патраплялі ў створаную ім славутую «Беларускую хатку».

Я наведаў яго праз колькі дзён пасля апошняга дня народзінаў, каб зрабіць прынагодную перадачу для «Радыё Свабода». І… прыязджаў яшчэ разоў пяць, аж да таго, як ён паклаўся ў апошні раз у лечкамісію. Кансіліум пастанавіў, што ўжо нічога нельга зрабіць. Дагэтуль шкадую, што не паспеў перадаць яму ўцепленыя валёнкі — у нагах праз капіляры дрэнна праходзіла кроў.

***

…Дзверы акуратнага, з кветнікамі паабапал, двухпавярховага катэджа ў вёсцы Ганалес, што амаль на беразе Мінскага мора, адчыніў сам дзядзька Валодзя. Зусім сівы, але з такой жа вясёлай хітрынкай у вачах. Пасля, у часе размоў, бачыў, як у іх бяздонні слізгала самота. Яшчэ і таму, канешне, што апошнія 6 гадоў здароўе не дазваляла выходзіць на сцэну. І ніводнага слова пра хваробы, пра болі, якія дапякалі.

З парога засмяяўся — дайце веры, за ўсё жыццё толькі ты называеш мяне «дзядзькам». Дарэчы, упершыню гэта адбылося яшчэ ў 1990-х гадах, калі пасля канцэртаў-сустрэчаў Данчыка, якія я вёў, стомленыя, сабраліся за чаркай разам з любімай абодвума акторкай Таццянай Мархель. І хутка разам зацягнулі «Сівага каня». Так пачаліся для мяне Пузыніны ўспаміны.

Прызнаюся, бываў у яго не толькі дзеля прагі душы і раскошы зносінаў — хацелася бясконца слухаць яго ўспаміны з цікавейшага жыцця. З-за традыцыйнай нашай мітусні не надта адорвалі яго наведваннямі сябры ды аднадумцы. Да таго ж, ягоны любімы Алесік даўно зняміў беларускую дуду на кампутары ў Амерыцы. Таму адчуваў ён сябе часам адзінока. Добра, пад бокам заўжды была клапатлівая жонка Валянціна.

Знайсці жытло Пузынькі, як называлі яго сябры, было не так проста. Узбярэжжа мора ў тых месцах спрэс забудоўваецца велізарнымі асабнякамі. І, як сказаў мне хлопец-праваднік, сотка ў самых прэстыжных месцах каштуе вялікіх грошай. Калі расказаў пра гэта дзядзьку Валодзю, той махнуў рукой — за доўгім рублём ніколі не гнаўся. Я ж ведаў, што ён дапамагаў усім.

Хай зараз, у гадавіну адыходу, тыя, хто заўсёды будуць яго горача любіць, разам са мной сплятуць яму Вянок Памяці. Дзядзька Валодзя гэтага годны. Балазе, многае з таго, што ён тады гаварыў, сказана, як сёння.

***

Уладзімір Міхарскі, кінатэлерэжысёр, які ездзіў пару-тройку разоў да Уладзіміра Якаўлевіча разам са мной, узгадвае:

— У пачатку 1970-х гадоў мінулага стагоддзя здымаў кіно «Звініце, цымбалы» — пра феномен мастацтва аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам Жыновіча. Пузыні даручылі ролю Дудара, бо ўсе дудкі, духавыя былі зробленыя ім. Ён сілкаваў усіх уласнымі прыдумкамі — так упершыню ў гучанне аркестра арганічна ўплялася ліра. І ў яго быў абсалютны слых! Самога Жыновіча лавіў на пеўнях, калі той граў на цымбалах. Запісвалі ў філармоніі ўначы «Блакітны Дунай» Штраўса. Яго вострае вуха чула лажу, казалі, на адну трыццаць другую ноты. Перапісвалі па яго патрабаванні разы і разы. Кіно пасля купілі ў 11 краінах.

***

Пра свайго настаўніка гаворыць лідар гурту «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі:

— Уладзімір Пузыня быў сімвалам, які звязваў аж тры пакаленні музыкаў — Цітовіча, Лычкоўскага, Жукоўскага. Гэта яны пачалі вырабляць, вяртаць з нябыту інструменты, якія патрапілі туды ў першай палове XX стагоддзя. У 1980–1990-х гадах спадар Уладзімір сам быў старэйшым жывым майстрам. Мы рэгулярна запрашалі яго на дударскія фэсты, канферэнцыі. Ён з'яднаў у сваёй творчасці і рамястве розныя часы і творцаў.

Лідар гурту «Палац» Алег Хаменка прыгадвае:

— Мы шчыра сябравалі з Уладзімірам Якаўлевічам з пачатку 1990-х гадоў. Дагэтуль граем на жалейцы і ліры, якія ён зрабіў для нас. Прычым, у розных па стылістыцы праграмах. І вельмі важна, што ён быў шчыры і апантаны чалавек і прафесіянал. Патрыёт Беларусі.

***

У размешчанай у катэджы «Беларускай хатцы» разглядаю зробленую Сяргеем Кляшчуком скульптуру гаспадара, герб на два роды — Пузыняў-Агіньскіх, на якім крыж на браме. У голас чытаю прысвечаныя дзядзьку Валодзю вершы Ніла Гілевіча:

*І зноў загучала над Плошчай сурма — трывожна, бунтоўна, зазыўна.*
*Так, гэта Валодзька, ён тут нездарма — славуты маэстра Пузыня.*
*Музыка ад Бога, ад роду крывіч, ён духам на крыўдах узрослы —*
*Пачуйце, пачуйце яго гэты кліч, збудзіцеся браццця і сёстры!»*

Між іншым, дзякуючы Нілу Сымонавічу, які тады працаваў у камісіі па культуры і захоўванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага савета 12 склікання, споўнілася вялізная мара Пузыні — старажытная дуда загучала ў храме. У дзядзькі Валодзі заззялі вочы:

— Яна загучала ў нашым аўтакефальным храме — мы грэка-каталікі. Ніл — мой хросны бацька, вылучыў мяне на заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Тады нас з Алесем запісалі для «Нядзельнай пропаведзі», і людзі беглі да прыймачоў слухаць боскае слова. Я і інструменты рабіў, каб яны маглі быць не сольнымі, а аркестравымі. Вось у сімфоніі, у оперы і загучалі — у «Дзікім паляванні караля Стаха» і «Князю Навагардскім». А як здарылася — сустрэў Солтана ў Саюзе кампазітараў, з папкай усё лётаў. І ён мне паказаў партытуру — як пачынаецца паляванне, павінны быць валторны. Я кажу — хай сурмы! Той прыйшоў да мяне ў майстэрню, і калі я сыграў, кажа: «Ты так нагадаў маю Радзімку!» І калі як гакнулі ў тэатры 6 сурмаў, усе спалохаліся — такі гром!

Пытаюся ў дзядзькі Валодзі, што найбольш значнае для яго ў кінематографе?

— У «Людзях на балоце» ў нас з Алегам Янчанкам загучалі ўсе нацыянальныя інструменты, і нават дуда, над якой тады працаваў. Але меха скуранога не было — я прыстасаваў цэлафанавы. Дык калі я пачаў граць, палова кінастудыі прыбегла — яна даўно не гучала. Ва ўсіх тэатрах нашых граў на дудцы, жалейцы, ліры. Я вельмі шчаслівы, бо ўздым дуды — уздым свядомасці. І калі я прыходзіў у садкі ў 1990-я гады, мне казалі: «Дзядзька, дзень добры», а не «здравствуйте». Я ж зараз знаходжуся пад гнётам маскаля — не саромлюся! Яны вынішчаюць нашу мову, свядомасць, культуру! Зараз ва ўсім свеце не магу пачуць сваю родную мову — гэта жах, ганьба тым, хто намі кіруе. Нават у маскалёў мяне паважаюць больш, чым на маёй роднай Радзіме. Я працаваў на 23–24 з'ездах КПСС, дзе сустракаліся з Муслімам Магамаевым, Валодзькам Назаравым, з Надзькай Бабкінай — таксама для іх рабіў інструменты. Але ж зрабілі двухмоўе — як так можа быць?! Што, я павінен мяўкаць і гаўкаць адначасова?!

***

Не абышлі ўвагай у часе размоў крыўду і боль, атрыманыя славутым майстрам ад улады. Пра гэта ён расказаў упершыню:

— Я працаваў у «Беларускай хатцы», што існавала ў Інстытуце культуры 20 гадоў! Нават Ельцына Наіна была ў мяне, была жонка Мілошавіча. Тагачасны амерыканскі амбасадар Спекхард размаўляў са мной на беларускай мове. Для Наіны сыграў «Клён ты мой опавший», і яна заплакала, маўляў, любімая песня Барыса. Ну а потым не ўпісаўся ў паварот. Наважыўся прыехаць Лукашэнка, і мне сказалі, што з вамі сустрэнецца Рыгоравіч. Я адказаў, што ў мяне на яго алергія, я захварэю. Нехта тут жа данёс. Мяне адразу прымусілі звольніцца — скончыліся «мае ўніверсітэты». Я ж хацеў зрабіць беларускую школу майстроў…»

***

У госці да маэстра завітала і кінарэжысёр Ірына Волах. Яе першая праца была шчыльна звязаная з Пузынем:

— Гэта быў 1992 год, калі яшчэ было Адраджэнне і беларускія тэмы былі запатрабаваныя. Уладзімір Якаўлевіч вельмі дапамог у першай працы па Баршчэўскаму і Галубку, якая называлася «Шукальнікі скарбаў». І была асноўная лінія сляпога лірніка, які аб'ядноўваў усю грамаду. Гэта быў, безумоўна, Пузыня, які, урэшце, сыграў на ліры «Лявоніх». І аўтарская песня там была, якую выконваў на скрыпцы тады яшчэ хлопчык, яго сын Алесь. Ёсць у Біблії, што няма прарокаў у сваёй Айчыне. Але і Айчыны няма без прарокаў! І Пузыня — адзін з іх, і будуць да гэтай постаці вяртацца і вяртацца…

***

Прашу пералічыць дзядзьку Валодзю нештачка з таго, што аднавіў. Пералічвае:

— Сурма, жалейка, ліра — з чарцяжамі, механікай, дасведчанымі практыкаваннямі, як трымаць інструмент. Маё ноўхаў — хорум. Ён з'явіўся ў Радзівілаўскім «Летапісы» XIII стагоддзя. Яго высушвалі з гарбуза — унізе ўдуваеш, там галасавік, бурдон і рагавень…

Дзядзька Валодзя ціхенька спявае мне пад ліру і найгрышы дуды:

*«Усе людзі, людзі просяць,*
*кабы жыта ўсхадзіла.*
*Усе людзі, людзі просяць,*
*кабы гора не ўсхадзіла.*
*Узыдзе, узыдзе маё жыта*
*поўнымі каласочкамі,*
*Узыдзе, узыдзе маё гора*
*сінімі васілёчкамі…»*

А на што ўсё-ткі клікала дуда Пузыні? Ён задумваецца і раптам усміхаецца:

— Барадулін пажартаваў: «Маэстра гоніць прэч нуду з зануды высекчы дуду — з былых цэкоўскіх дундукоў наробіць для чарцей смыкоў». Дуда пратэстуе супраць насілля. У «Інструментах жыцця», як я назваў сваю кнігу, напісаў: «Сурма, каб склікала на добрыя святы, а ў цяжкую гадзіну на абарону Радзімы. Ліра — каб не забывалі мову сваю, паданні, легенды. Жалейка — каб прасіла Бога на добрае здароўе ўсім людзям і жывацінe. Дудка — каб весяліла і кранала душы людзей да любові і кахання. Скрыпка — каб не забывалі дар Божы. Дуда — каб не забывалі продкаў, каранёў сваіх…

***

Дагэтуль адчуваю за дзядзьку Валодзю боль і гонар. Боль — бо талент і майстэрства яго незамення. Гонар — за тое, што быў з ім апошнімі днямі побач. Вучыўся — пра гэта гаварылі ўсе — як трэба годна сыходзіць да Творцы. Як ён — да апошняй хвіліны апяваючы сваю Беларусь, аддаючы блізкім ды навакольным літаральна апошнюю кроплю любові ды крыві. Ён з тугой сказаў пры раставанні: «А ці прыме хто маю Дуду?» І, як заўжды, — «Жыве Беларусь».

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

## ПАДРАСТАЮЧЫ, ДОМА

Арсень ЛІС

Працяг. Пачатак у №34.



**У Вётхаве, Залессі напрыканцы 1940-х гадоў праміналі незаўважна мае першыя школьныя гады, адыходзіла бесклапотнае і, пэўна, шчаслівае маленства. Шчаслівае, бо ў бацькоўскім доме, на ўлонні мілых сэрцу ваколіц, з рэчкай Нурэц, што імкнуў да гожай Вяллі, невялікім ляскам па дарозе на станцыю. Сям'я наша жыла пры адносным дастатку. Адразу па выгнанні немцаў бацька ўладкаваўся працаваць на чыгунцы, атрымаў бронь, якая звальняла яго ад удзелу ў вызваленчым паходзе на захад. Акрамя таго, у нашых краях вайна не разбурыла адвечны сялянскі быт. Бацькі мелі сярэдняй рукі гаспадарку: каня, дзве каровы, іншую хатнюю жыўнасць, пчол.**

Гэта забяспечвала штодзённы хлеб на стале ды неабходнае да хлеба. Меўся не раскошны, вядома, сякі-такі адзетак і абутак.

Пасляваеннага ліхалецця, як тое зазналі людзі ў іншых рэгіёнах Беларусі, мы не ведалі.

Болей за тое, падтрымлівалі, як цяпер разумею, нямала люду з іншых рэгіёнаў вялікай краіны.

У 1946 годзе асабліва часта ішлі з просьбай міласціны людзі з Украіны, старэйшыя і падлеткі. Яшчэ крыху раней, перад зыходам немцаў, знайшлі тут прытулак бежанцы са Смаленшчыны.

Людзі нашы спагадліва ставіліся да чужой бяды, спрыялі колькі маглі.

Важнейшае нешта ў маім духоўным свеце на той час лучылася перадусім са школай. Яна была за вярсту ад нашага Вётхава. Дабрацца да яе нават узімку не складала праблемы: як правіла, мелася добрая санная дарога. Гаспадарам, на той час яшчэ ў кожнага быў свой конь, натуральна, рупіла з'ездзіць у лес па дровы ці пад'ехаць на станцыю, трапіць да доктара, заглянуць у аптэку або некага з далейшых вёсак падвесці да цягніка. Мы, дзеці, з той нагоды маглі часам скарыстаць, каб пад'ехаць.

А наогул зімой у пазашкольны час мы не мелі нейкага шырэйшага разгарнення. Лыжаў блізу ні ў кога не было. Я, праўда, знайшоў быў на гарышчы адзін фабрычны канёк, пазасталы, бацька пра тое казаў, ад яго старэйшага брата Івана, калі той вучыўся ў гімназіі. Я ганяў на тым каньку па замёрзлых завоінах на Букараве. Пазней бацька зрабіў мне самадзейны: падбіў пад дзеравяшку тоўсты дрот ды прымацаваў скураткамі да абутку. Займальна было па заечых сцежках цікаваць за вушастымі. Яны панадзіліся наведвацца ў суседні Баўтрукоў сад, які цягнуўся аж ад рэчкі. Плот вакол саду з часам прагніў, асобныя праслы абваліліся, і зайцы прабіраліся ноччу да маладзейшых яблынь паласавацца карой.

Тут і чакалі іх між сцяблін сухой травы мае драцяныя петлі. Звычайна зайцы абміналі пастаўленыя на іх немудрагелістыя лавушкі. Аднаго, бедалагу, аднак, мне такі ўдалося ўлавіць. З яго скуркі потым зрабілі мне каўнер для пальтэчка. Не скажаць, каб я тым уласназдабытым каўняром ганарыўся. Хоць, вядома, улавіўшы зайца, цешыўся з першай сваёй паляўнічай удачы.

Прыход вясны, лета адкрываў перад дзіцячай душой шырокі прастор. Вясна ў дзіцячыя, падлеткавыя гады пачыналася для мяне са спеўнага шчыравання — пераліўістага пасвісту шпака на старой ліпе край сядзібы, пасаджанай некалі даўно прадзедам Андрэем. Радасна было раніцай, ідучы ў школу, пачуць над полем званочак жаўранка, што набліжаўся, то аддаляўся ў празрыстай прасторы неба.

Бывала, убачыш шырокі размах дужых крылаў, пачуеш клёкат на буслянцы — значыць, настала сапраўдная вясна. Добра было ўпершыню ўгледзець бусла, або бацяна, як у нас казалі, у лёце. Гэта пэўна гарантавала табе пасляховы пераход у наступны клас, памыснае лета.

Летам ці не найбольшую ўцеху, радасць нам, 12–13-гадовым хлапчукам, прыносіла рэчка. Яна была недалёка, побач з вёскай. Неглыбокая, зусім плыткая на перакатах, у двух-трох мясцінах яе рэчышча мела паглыбленні. Звычайна пры паваротах, дзе падчас веснавой паводкі дно яго, мабыць, больш вымывалася патокам вады.

Купальні нашы — адна глыбейшая, а другая мялейшая, па шыю, — зваліся Баранова і Шыманова, насілі імя-прозвішча гаспадароў, якім належалі прыбярэжныя ўчасткі сенажаці. Не памятаю, каб мы мелі нараканне за тое, што бальшыню сонечных дзён тапталіся там зрання мала не да вечара. Можна было пахваліцца, напрыклад, што сёння купаўся дзесяць разоў. Дзесяць — гэта ўжо было рэкордна, хоць не выпадала прызнавацца ў тым бацькам. Праўда, яны маглі моцна не турбавацца — рэчка была неглыбокая, небяспечная толькі хіба ў час паводкі.

На поўдні Залескай ваколіцы гарызонт замыкаўся ланцугом узвышшаў, што цягнуўся ад



Д. СМОЛІЧ.

ГЕОГРАФІЯ БЕЛАРУСІ.

Рэдакцыя школьнае Камісіі Беларускага Навуковага Т-ва.

ВІЛЬНЯ — 1919.
Друкарня „Промень".

віленскіх Панараў у бок Мінска. (У «Геаграфіі Беларусі» Аркадзя Смоліча гэты доўгі цяг узгоркаў меў назву «Літоўска-беларускае ўзвышша». У цяперашняга часу падручніках атрымаў назву «Ашмянская града».) У нас жа яны трактаваліся, называліся гарамі. Калі гутарка заходзіла пра Даўбучкі, дарэчы, татарскую вёску, то казалі: «Туды недзе, за горы». Адпавядалі характару ландшафту і назвы там тых селішчаў «Загор'е», «Гарбачы», «Паніззе».

Далавах цяглавага ланцуга ўзгор'яў ад самой Вільні праз Крэва, Баруны, Беніцу на Маладзечна пралягаў стары гасцінец.

Ад яго, з-пад узвышшаў на поўнач, у бок Залесся, раскінулася нізінная, як скінуць вачыма, адкрытая прастора.

За балотцаў, крыніц, ручаін яе і бароў меў вытокі наш Нурэц. Вясной, калі з гор сыходзіў снег, ён разліваўся шырока, аж да поля ды зарэчных пагоркаў. Вялікая вада досыць хутка спадала, рэчка ўваходзіла ў берагі, і тады пачыналіся ловы на рыбу, што, аднераставаўшы ў вярхоўі, вярталася ў Вяллю. Рыбныя ловы ладзіліся пераважна сеткамі-таптухамі. На адтоках, равах ставілі бучы з лазы, а таксама венцяры — доўгія вузкія з абручамі сеткі, вусцем-уваходам якіх перакрываўся водны праток.

Пасля паводкі прырэчныя сенажаці пакрываліся там-сям залацістай лотаццю, а пазней на іх падымаліся густыя сочныя травы. Буянню разнатраўя спрыяў іл, прынесены веснавой паводкай.

Надыход восені бацькам прыносіў адвечныя гаспадарчы клопат, у якім патроху ўдзельнічаў і я. Прынамсі, пачынаў брацца за плуг. Бацька дзень пры дні быў заняты на чыгунцы. Мы з маці ўзоралі поле на зіму. Па чарзе хадзілі за плугам. Маці ў асноўным вадзіла каня, а я ўпраўляўся з плугам, выводзіў барозны. Гэта не займала ў нас надта шмат часу. Неяк з тым ворывам мы, як цяпер помніцца, без цяжкасці спраўляліся.

За радасць мне было, прыбегшы са школы, хуценька зрабіць урокі (прынукі на тое мне не патрабавалася) і, прыхапіўшы кошык, бегчы па грыбы.

Найпрасцей было падскочыць у Кізікаў лес, пад дубы. Гэта ад Вётхава якіх-небудзь паўкіламетра, у Каралевіцы. Дубы дзяцінства... Як харашылі яны сваёй велічнай адзінотай навакольную прастору. Вярнуцца б да вас, развітацца, калі ацалелі за паўвекавую далячынь часу.

Каралевіца — колішні засценак шляхоцкага роду Выдраў, які згасаў. Апошняя яго ўладарніца прадавала зямельную спадчыну продкаў. Мілы куток зямлі, які з захаду абягала рэчка, а на ўсходзе мяжу абазначыў бярозавы гай з дубамі на ўскрайку, купілі выхадцы з-за Вяллі браты Кізікі.

Старэйшы з братоў на імя Аляксей адразу рупліва загаспадарыў на прыдбанай пераважна на грошы малодшага дзялянцы. Маладзейшы, Ігнат, скончыўшы ў Санкт-Пецярбургу гімназію, падаўся па лініі вайскоўца. Даслужыўся да чына штабс-капітана ад інфантэрыі, загадваў артылерыйскім палігонам. Рэвалюцыя ды Кастрычніцкі пераварот скіравалі былога афіцэра на малую радзіму. Пры палякaх мусіў быў асесці на купленай зямлі, неяк з ёй упраўляцца сам. Тым часам даваў рады, хоць быў нязвычны да працы на зямлі. Зрэшты, ворнай зямлі было няшмат. Стольки ж сенажаці ў надрэччы.

З забудовай шырока не разгортваўся. Наймам пабудаваў сціплы, але досыць утульны дамок, паставіў гуменца, хлеў. Насупраць хаты — свіран з прысвіронкам. Сядзіба набыла вяночны план. Пасярод падвор'я, забрукаванага каменнем, уцэнтравалася студня-журавель. Як цяпер бачу: вяртаючыся са станцыі ў сваю Каралевіцу, ідуць праз наша гумнішча Кізік-вусаты, пад такім найменнем ён быў знаны ў нас, з сынам Вячаславам. Ідуць шпарка. Стары, невысокі, сухар'явы, імкліва выкідвае перад сабою заўсёдную ляску, гаворыць хутка, па-руску. Сын вышэйшы, лысаваты, з партфелем у руцэ, таксама хуткі ў гутарцы, адказвае бацьку па-беларуску. Колішні выпускнік Віленскай беларускай гімназіі трымаецца беларушчыны. Хаты ж нашай, звычайна паасобку і ў розны час Кізікі не міналі. З маім бацькам і за польскім часам, і ў вайну, і пасля яе ў іх было пра што пагаварыць.

Кізіка-вусатага — бацька звяртаўся да яго пачціва, называючы «Ігнаці Мікалаевіч», — я ведаў з дзіцячых гадоў. Быў у другім класе, калі аднойчы, падчас адведак нас, ён узяў мяне за плячук, паставіў перад сабой і строга праэкзаменаваў малечу, — паганяў па ўсёй табліцы множання. «Молодец молодой человек», — сказаў госць, і я ўпершыню даведаўся, што з'яўляюся маладым чалавекам. А самае важнае, пэўна, заключалася ў тым, што сын не падвёў бацьку: няблага засведчыў пра сябе перад шанаваным ім чалавекам, не аказаўся звычайным вясковым салапякам.

З іншага візіту старога інтэлігента да нас запомнілася яго выказванне наконт аптымальнага складу сям'і. Не ведаю, казалася тое ўсур'ёз ці жартам:

— Сергей Петрович, двенадцать детей — слишком много. Одно — мало. Золотая серединка — шесть.

Можа, даўней гэта было і апраўдана. Але сам Кізік са сваёй спадарыняй-гаспадыняй Мальвінай мелі толькі трое дзяцей. І яна была не з-за свету прывезеная, дзе давялося служыць афіцэру Кізіку, паходзіла з тутэйшых, завяльнянка.

Самым прасунутым, кажучы сучасным сленгам, быў старэйшы Кізікаў сын Вячаслаў. Лёс яго склаўся няпроста... Пры паляках, да вайны, кар'еры не зрабіў. Беларусу ў даваеннай Польшчы тое не фарціла. У саракавым — пачатку сорак першага, пры Саветах, настаўнічаў у Маладзечне. У 1942–1944 гадах працаваў у Маладзечанскай павятовай управе. І, відаць, меў давер у вышэйшай беларускай адміністрацыі, што абапіралася на немцаў. Аб тым, пэўна, можа пасведчыць той факт, што Вячаслаў удзельнічаў у апошняй нарадзе прадстаўнікоў Цэнтральнай Беларускай Рады на чале з Радаславам Астроўскім у Вілейцы, перад самым прыходам Савецкай Арміі ў Мінск.

Тым часам на захад, як іншыя, не падаўся. Не быў арыштаваны НКУС, як дырэктар Віленскай беларускай гімназіі Франук Грышкевіч, выпускнік Карлавага ўніверсітэта ў Празе, паважны навуковец-асветнік у Заходняй Беларусі Станіслаў Грынкевіч, дырэктар Вілейскай настаўніцкай семінарыі Мікалай Грышкевіч ды шэраг менш вядомых інтэлігентаў, пераважна настаўнікаў. У свой час Кізік Вячаслаў патрапіў заручыцца надзейнай сувяззю з савецкім падполлем, партызанамі і тым самым здабыў алібі што да свайго калабарацыянізму. Неўзабаве з'ехаў у Літву, працаваў інспектарам польскіх школ. На пенсіі спакойна дажываў свой век у Вільні-Вільнюсе, зрэдзь часу заглядаючы на бацькаўшчыну, у Каралевіцу.



Навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Алена Дзенісенка знаёміць удзельнікаў імпрэзы з выставай «Беларусы ў Пецярбургу»


Ансамбль «Класік-Авангард»

# РУХ МУЗЫЧНЫ

Марат ГАРАВЫ

**«Рух музычны» — імпрэза пад такой назвай адбылася вечарам 16 верасня ў Мінску, у Малой зале імя Рыгора Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў межах XXIII фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы».**

Імпрэза ладзілася пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНБ НАН Беларусі) і Беларускага саюза мастакоў.

У вечарыне, прысвечанай музычнай творчасці выхадцаў з абшараў Рэчы Паспалітай у Санкт-Пецярбургу ў канцы XVIII–XIX стагоддзях, прынялі ўдзел лаўрэат спецыяльнай прэміі прэзідэнта Беларусі для дзеячаў культуры і мастацтва ансамбль салістаў «Класік-Авангард» (мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Байдаў), салісты Ірына Лой (сапрана), Віктар Гайдукоў (барытон), Алена Мальцава (скрыпка), Святлана Кудзіна (фартэпіяна), Арцём Магілёўцаў (валторна) і Вольга Сяргеева (габой).

У канцэрце прагучалі творы шэрагу кампазітараў — ураджэнцаў Рэчы Паспалітай, у тым ліку Пётры Станкевіча, Віктара Кажынскага, братоў Концкіх (Апалінары, Караля і Антона), Антона Абрамовіча, Цэзара Кюі, братоў Веняўскіх (Генрыка і Юзафа), Міхала Клеафаса Агінскага, Станіслава Манюшкі, Антона Генрыка Радзівіла, Язэпа Казлоўскага і Канстанціна Горскага.



Альманах Яна Баршчэўскага «Niezabudka» («Незабудка», 1840, Санкт-Пецярбург)

Вядучы імпрэзы, вядомы беларускі спявак, педагог і дзеяч нацыянальнага адраджэння, мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы», заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Віктар Скарабагатаў пазнаёміў прысутных з жыццём і творчасцю гэтых выбітных асоб і выканаўцаў іх твораў.

Так, паводле слоў вядучага канцэрту, лаўрэат нацыянальнага конкурсу, студэнт II курсу Беларускай акадэміі музыкі Віктар Гайдукоў для свайго дэбюту выбраў цудоўны, музычна адметны раманс Антона Абрамовіча «Гарэліца» на словы яго найбліжэйшага сябра, земляка з Віцебшчыны і патрыёта роднага краю Яна Баршчэўскага.

Скарабагатаў адзначыў, што Цэзар Кюі, «Мелодыю» якога выканаў ансамбль «Класік-Авангард», нарадзіўся ў Вільні, разам з Мадэстам Мусаргскім і Мікалаем Рымскім-Корсакавым заснаваў «Магутную кучку», а таксама быў абраны старшынёю пецярбургскага аддзялення Рускага музычнага таварыства.

Перад выкананнем фантазіі Уладзіміра Байдава на тэмы оперы Міхала Клеафаса Агінскага «Зэліс і Валькур, або Банапарт у Каіры» Віктар Скарабагатаў нагадаў, што ў наступным годзе будзе адзначацца 250-годдзе з дня нараджэння вялікага кампазітара, які «ўпершыню вывеў на сцэну жывога чалавека — Напалеона I», што да Агінскага ніхто не рабіў». Паводле словаў вядучага імпрэзы, зараз у Смаргоні (Гродзенская вобласць) адраджаецца палац кампазітара, а ў ягоным палацы ў Пецярбургу месціцца гарадское аддзяленне Саюза кампазітараў Расіі.

Да вечарыны супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі падрыхтавалі выставу кніг «Беларусы ў Пецярбургу», на якой прадстаўлены творы нашых землякоў, што жылі і працавалі ў сталіцы Расійскай імперыі ў XIX — пачатку XX стагоддзя. Сярод экспануемых — штогодні альманах беларускага і польскага пісьменніка, выдаўца, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскі «Niezabudka», кнігі першай легальнай выдавецкай беларускай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (у тым ліку Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Адама Міцкевіча, Якуба Коласа і Янкі Купалы), а таксама творы шэрагу навукоўцаў, у тым ліку Яўхіма Карскага, Івана Насовіча, Александра Сержпутоўскага, Паўла Шэйна і Браніслава Эпімаха-Шыпілы.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК. Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ. Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1148

Падпісана да друку 20.09.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.